Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

25 мая 1930

N 10

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79. Тэл. 7-41



ПРОЕКТ ПОМНІКА УЛАДЗІМЕРУ ІЛЬЛІЧУ ЛЕНІНУ

Каля проекту—аўтар яго,—скульптар А. ГРУБЭ



# ТРЫКОТАЖНІКІ ::: Нарыс Г. РОЙЗМАНА Фото УЛ. СЕМЯНЯКІ

ЦІКАВІЦЕСЯ як робіцца панчошкі? Дык мы пачнем спачатку.—Член праўленьня арцелі ўзяў ключ, адчыніў каморку і прапусьціў нас наперад.—Вы бачыце сыравіну ў пукох. У нас кульгае тара, сыравіна ідзе ў скрынках, і гэта на шмат даражэй.



— Я шэсьцьдзесят год хадзіў у сінагогу

На пукох, на самым версе стаіць вялізная драўляная калода, з боку якое прымацована калясо з шурпатым тронкам. З паліцы, з клубкоў пражы, член праўленьня выцягвае верацяно, як затычку з бутэлькі. Ён распускае верацяно, як парасон, устаўляе ў калоду, надзяе на стрыжань драўляную шпульку і я пазнаю дапатопнае ручное матавіла.

— Наш архіў, — кажа ён.—Яно матае пражу і вымотвае кішкі! Месяц, як мы працуем на шпульмашынах!

У суседнім пакоі мătальныя машыны, савецкія і замежныя. Нітка намотаная на крылы ваніцы ідзе праз кручкі і ножыкі, праз ніткаводнік на шпулі. Машыны працуюць электрычнасьцю. Круглы разьмеркавальнік падымаецца і апушчаецца, прымушаючы роўна класьціся нітку. За другою машынаю—сівабароды старык працуе адзін на васьмі шпулях, і я дзіўлюся яго рухавасьці. Старык раней працаваў шахцёрам у Польшчы, пасьля ўцёк, тры гады служыў на бойні, а цяпер, па слабасьці здароўя—у арцелі. Яшчэ за адною машынаю—дзяўчына, таксама ўцякачка з Польшчы, і яе жыцьцё, як дзьве кроплі вады, падобна да сотні іншых жыцьцяў.

— Я жыла ў Беластоку. За апошнія два гады здарылася вялізнае беспрацоўе. Я перабегла мяжу. Там асталася маці і сястра...

Я ўспамінаю нашых маскоўскіх дам, што мараць аб замежжы, аб шаўковых панчохах і парфуме Коці.

— Тут цяжкая работа!—кажу я дзяўчыне.—Вы, мабыць, шкадуеце Польшчы?

— Ой, ой!—ускрыквае яна, прыціснуўшы да грудзей рукі.—Каб я так бачыла свае вочы, як я шкадую!

Матальніцы прыносяць шпулі на вагу, пража важыцца і адтуль ідзе ў вязальню. Але вязальня ў другім памяшканьні, на другой вуліцы, і член праўленьня вядзе нас у пакойчык, які мае гучную назву: оверлачная. Дзесяць „оверлакаў“ бліскаюць металёвымі пальцамі, на іх ідзе істужка з вязальні, якая разрэзваецца на калошкі і—тады пачынаецца нараджэньне панчохі. Панчоха нараджаецца — правым бокам, але пецель-машына—ляўша і дзеля гэтага панчоху выварочваюць, каб пусьціць у пятлёўку. У гэтым пакоі сярод франтаватых оверлакоў за вялікаю швальнаю машынаю сядзіць жанчына. Машына і жанчына пражылі добрага паўвека з хвосьцікам. Жанчына пасівела, машына заіржавела, але і яны спатрэбіліся арцелі: калі пража кепская, дык лепш праточваць шво на швальнай машыне. А сапраўды—пража дрэнная. Пра гэта гавораць рэпрэзіроўніцы (гэта тыя, што зацыроўваюць дзіркі на панчохах); на гэта скардзяцца оверлачніцы, у якіх нітка (муля) часта раздвойваецца, ад чаго і даводзіцца распушчаць панчоху; пра гэта заяўляюць прыёмшчыцы, просячы, каго трэба, працягнуць у газэце. (Больш за ўсё скардзяцца рэпрэзіроўніцы: яны арганізавалі колектыў, дзеляць усю зарплату роўна між сабою, а зарплата падае, бо з-за дрэннае пражы ў панчохах шмат дзірак).

Мы выходзім з кітлевачнае, дзе мала паветра, шмат пылу і пушынак пражы, што ляціць сьняжынкамі на падлогу. Мы выходзім і на парозе сустракаемся з старыком. Ён нясе на руках доўгія скруткі, дзівіцца, што бачыць незнаёмага чалавека, і раптам словы, як арэхі, прарваўшы мяшок, сыплюцца з яго роту.

— Я шэсьцьдзесят год хадзіў у сінагогу. Зарэжце мяне,—я не пайду і ў шабэс працаваць!—Ён кінуў на падлогу скруткі і моцна схапіўся за крысу майго піджака.—Я вас пытаюся, так робяць і са старым чалавекам?

Член праўленьня перабівае яго: „усе арцелі пераведзены на бесьперапынку, нікому няма справы ні да суботы, ні да нядзелі“. Старык хоча адказаць, падымае скруткі, адносіць іх з рухавасьцю юнака і бяжыць за намі ўсьлед. Калі мы прыходзім у вязальню, старык ужо стаіць пры варштаце, і я бачу, што суседзі, такія-ж сівабародыя, ім з'агітаваны.

Круглая панчошна-вязальная машына рухаецца ручкаю, але гэта вельмі марудна, і саматужнікі ўдасканалілі машыну: прырабілі да ручкі шасьцерні, абвязалі іх вэлёсыпэдным ланцужком і пабольшылі ў шмат разоў вытворчасьць машыны. Хоць і тут дрэнная пража дае сабе знаць—муля раздвойваецца, рвецца, работніцы даводзіцца спыняць машыну, распушчаць на цыліндры панчоху, і гэтым значна зьніжаць сваю штодзенную выработку. Некалькі жанок працуе на гумовачных машынах, робіць так званую „гумку“ для шкарпэтак. Адна з жанчын—старая. Я нахіляюся да яе, каб запытацца ў яе, у бывалешняе швачкі, пра штомесячны заробак, але ў гэты час старыкі зрываюцца з мясцоў. Яны цягнуць мяне да дошкі, дзе прыбіта аб'ява з вымовяю за няяўку на работу ў суботу, яны крычаць і тыкаюць пальцамі ў свае прозьвішчы. Член праўленьня падбягае да варштатаў, каля якіх стаяць старыкі, ляпае рукою па дошцы:

— Я вас пытаюся: на якіх машынах вы працуеце?—крычыць ён старыкам, і яны паварачваюцца да яго тварам.—На дзіцячых машынах вы працуеце! Вы чуеце, на машынах для малых дзяцей!—і голасам, што ня трывае пярэчак, дадае:—Вы-ж самі давалі голас за дзьве зьмены і бесьперапынку!



Калі мы прыходзім у вязальню, стары ўжо стаіць пры варштаце

На сэкунду ў памяшканьні чуцён толькі лопат машын. Старуха, пакінуўшы круціць ручку машыны, устае і гаворыць:

— Майму мужу шэсьцьдзесят два! Ён хоча працаваць па бесьперапынцы!

Фармовачная—на Школьнай вуліцы. Памяшканьне па цеснаце горшае за кітлёвачную і вязальню разам. Нават дзіва, якім чынам гэтулькі людзей і прадметаў зьмясьцілася ў трох пакойчыках. Да фармовачных панчоха пабыла ў фарбавальні (і калі-ж мы да яе дойдзем). У фармовачні яна сушыцца, сартуецца і надзяецца на спэцыяльныя драўляныя формы, каб з форм папасьці пад ціск. Панчохі кладуцца пад ціск між кардонам, на кардон накладваюцца жалезныя лісты, а на лісты гарачыя чугунныя пліты. Яны выконваюць абавязак цяжкіх прасоў. Пліты награюцца ў вялізнай печы-сушыльцы; адурлівая гарачыня ўдарае ў твар маладым саматужнікам, але яны спакойна зашрубоўваюць ціск і заціскаюць кардон да канца. Прасавальнікі працуюць брыгадаю. У іхняй рабоце адчуваецца вялікая спрытнасьць, а ў руках — рытм. Пасьля прасаваньня панчохі падлічваюцца, сартуюцца і ідуць у пакавальню. Гэта толькі так гаворыцца „пакавальня", а на самай справе за даўгім сталом стаіць адзін чорнабароды яўрэй, абложвае панчохі ярлыком і кладзе ў скрынкі. Нумары панчох ён піша рукою, пальцы ягоныя выквацаны ў атрамант. На стале ляжыць штэмпель з нумарамі, але ўпакоўнік любіць лепш пяро, як штэмпель.



Круглая машына рухаецца ручкаю, але гэта вельмі марудна

Выпадкова ў фармовачную зайшоў загадчык красільні, член праўленьня перадаў мяне яму і мы пайшлі на Савецкую. Каб Дантэ спусьціўся ў красільню панчошнікаў, бязумоўна ён палічыў-бы яе за адзін з колаў пекла. У цёмным халодным пакоі поўна густое пары, са столі падаюць буйныя кроплі, на падлозе ад фарбы бягуць у рышток сінія, чырвоныя і зялёныя ручайкі. Направа—кацёл, пад катлом агонь, у катле распушчана фарба і плячысты хлапец, як чорт грэшнікаў, варочае ў катле панчохі. З катла панчохі ідуць у ванну, мыюцца ў халоднай вадзе, выціскаюцца ў цэнтрафузе, і вяжуцца ў пукі. Ні на водным рабочым няма халата, на некаторых—гумовыя хвартукі. Я шукаю вачыма вэнтыляцыі—яе таксама няма. Стараючыся не зваліцца ў возера фарбы, я праходзіў па дошках у кладоўку. Кладоўнік, па горла ўтоплены ў панчохах, усьміхаецца:

— Я замураваны работнік,—кажа ён ні то скардзячыся, ні то іронізуючы.—Усё без мяне спыніцца. Я ня ведаю што такое дзень адпачынку.

У фарбавальні ўсе работнікі—яўрэі. Адзін старэйшы майстар—спэцыялісты па фарбавальнай справе, Рамнёў—расіец, маскоўскі. Я выходжу з Рамнёвым з памяшканьня, ён закурвае папяросу, ківая галавою на фарбавальню, і вочы яго сьмяюцца.

— Мініятура!—наругаючыся кажа ён на фарбавальню.

Але ў гэтых умовах фарбавальня прапушчае ў дзень 400 тузін панчох, 20 пукоў прадзіва, кожны пук вагою ў $4^1/_2$ кілё. Я пытаюся ў Рамнёва пра працаздольнасьць яўрэяў-фарбавальнікаў, ён дзьме на аганёк папяросы і залаты бісер сыплецца на яго зглоданую фарбаю руку.

— Я ў Маскве таксама працаваў з яўрэямі.—Гаворыць ён. — Усе—людзі. Вось шоўк фарбіць. А што яўрэі—пра гэта гутаркі няма. Усе працуюць. Адзін шчырэйшы, другі крыху горш.

Ён вядзе мяне на вышкі, у пакавальню, падобную да маленькае галубятні. Ён гаворыць пра будучую пабудову фарбавальні, сродкі, якія арцель атрымае як зьліецца з багатаю арцельлю „Ментрыкатаж".



— Майму мужу шэсьцьдзесят два! Ен хоча працаваць па бесьперапынцы

Ідучы дахаты, каля хлява я сустракаюся з яўрэем, які нясе на руках дровы. Гэты былы гаспадарык - саматужнік, ён міргае мне і пытаецца:

— Ну, як спадабалася?

Я паціскаю плячыма, ён мацней абхопвае дровы і гаворыць далей:

— Я раней таксама працаваў па гэтай справе. Дык я фарбаваў у катле, паласкаў у рэчцы, а сушыў на вяроўцы.

— Дазвольце!—перапыняю я яго,—па вашаму гэтая фарбавальня—крок наперад? — Гэтая фарбавальня!—ускрыквае ён, натхнёна паказваючы на яе паленам.— Прабачце, гэта фарбавальня ўжо цэлая фабрыка.



# БАЯВАЯ ЗБРОЯ БАЛЬШАВІЗМУ

## НАРЫС Б. КЛІМЧУКА

ДРУК заўсёды быў баявой зброяй бальшавізму. Пры дапамозе друку, свайго „колектыўнага агітатара, прапагандыста і організатара" (Ленін), бальшавіцкая партыя організавала масы працоўных для таго, каб скінуць абшарнікаў і капіталістых, для разгрому армій контррэволюцыі, для перамогі страшэннай гаспадарчай разрухі.

Пры дапамозе друку, сваёй „самай вострай і самай моцнай зброі" (Ленін), бальшавіцкая партыя „кожны дзень, кожную гадзіну гаворыць з рабочай клясай" (Ленін) і бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі, згуртоўвае іх вакол сваёй генэральнай лініі, мобілізуе іх энэргію і творчую ініцыятыву на будаўніцтва социялізму, разгортвае пролетарскую самакрытыку, ачышчае свае рады ад опортуністычнай погані, пераможна змагаецца за пяцігодку, за социялізм, за колектывізацыю, за сусьветную пролетарскую рэволюцыю.

Вось чаму трэба горача вітаць спробу габінэту журналістыкі пры комуністычным унівэрсытэце Беларусі наладзіць выстаўку друку, якая паказала-б усю магутнасьць і сілу друкаванага слова, як зброю бальшавіцкай партыі. Маруднай і ўпартай працай габінэт журналістыкі здолеў сабраць 2600 розных газэт, розных эпох і розных напрамкаў.

2600 газэт! — гэта не малая колькасьць. Усё гэта сыстэматызаваць; разьнесьці па асобных разьдзелах, належным чынам паказаць гледачу,—бязумоўна вымагае багата сіл, часу і энэргіі, а таксама сродкаў. Відаць, што ўсё гэта бракавала ў організатараў выстаўкі, што вельмі адбілася на яе характары і выніках. Але ня будзем сьпяшацца.

Выстаўка мае каля 20 розных аддзелаў. Першы пакой выстаўкі, які цалкам прысьвечаны бальшавіцкаму друку, пры ўсіх сваіх недахопах зьдзіўляе гледача веліччам і колькасьцю экспонатаў,—газэт, якія нібы пераможным маршам праходзяць перад вачыма ад „Искры" да сьвежага нумару „Правда" за май месяц 1930 году.




Цярністы і слаўны шлях нашага друку. Скрозь усе загароды і перашкоды, скрозь даўгі рад драцяных загарод, наш друк, пад кіраўніцтвам слаўнай комуністычнай партыі, пракладаў шлях да працоўных мас, будзіў іх рэволюцыйную энэргію, клікаў да рэволюцыі, організоўваў яе,—а пасьля заваёвы ўлады з неперарможнай энэргіяй змагаўся за социялістычнае будаўніцтва, за абарону гэтага будаўніцтва ад нападаў імпэрыялістых. Шлях нашага друку—шлях рэволюцыі. Рост друку, яго гісторыя зьяўляецца яскравым дакумантам разьвіцьця рэволюцыйнага руху.

Вось аддзел падпольнага бальшавіцкага друку. Шлях ад „Искры" да эпохі „Звезды" і „Правды". Шлях да першай бальшавіцкай легальнай штодзеннай газэты, за якой сталі „дзесяткі і сотні тысяч рабочых, якія сваімі капеечнымі зборамі перамаглі і ўціск царызму і конкурэнцыю дробнабуржуазных здраднікаў социялізму—меншавікоў" (Ленін). Як далёка мы адышлі ад таго часу, калі Ленін вылічваў рост уплыву бальшавіцкай партыі па колькасьці капеек, якія паступалі ў жалезны фонд „Правды"! Шлях „Праўды", гэта шлях кожнай сапраўды рэволюцыйнай газэты, і па гэтаму шляху зараз ідуць газэты нашых братэрскіх комуністычных партый, „Ротэ Фанэ" у Нямеччыне, „Юманітэ" ва Францыі, „Дэйлі Уоркер" у Англіі і рад іншых. Сапраўды бальшавіцкая газэта можа існаваць толькі ў шчыльнай сувязі, і пры актыўнай дапамозе шырокіх рабочых мас; не газэта для рабочых, а газэта самых рабочых,—гэткай была бальшавіцкая „Правда". І хоць на выстаўцы цэнтральны бальшавіцкі друк раскінуты па розных кутках, усё-ж сіла, важнасьць і значэньне бальшавіцкага друку знайшлі тут больш-менш поўны адбітак. Аддзел, які ніякай назвы ня мае. Па думцы організатараў, ён павінен паказаць газэту ў эпоху ваеннага комунізму і аднаўленчага пэрыоду: жоўтыя, чырвоныя, зялёныя, картонныя газэты, рэдка калі белы ліст убачыш. Гэтая сьцяна газэт па знадворнаму выгляду свайму лепш за ўсё паказвае гаспадарчы стан савецкіх рэспублік тае пары. Ня было белае газэтнае паперы, друкавалі на пакавальнай паперы, але выпушчалі дзесяткі мільёнаў газэт для таго, каб ідэі комунізму разьнесьці па самых глухіх кутках краіны, каб будзіць масы да змаганьня, да перамогі, да будаўніцтва.

Дзе толькі не выдаваліся газэты? Паўсюды, дзе была хоць самая дробная магчымасьць—друкавалася газэта. Ды не адна толькі. Зьнішчаны, спалены белапалякамі Барысаў выдаваў аж чатыры штодзенныя газэты. Партком для гораду і для вёскі—2 газэты, выканком сваю газэту, профбюро сваю газэту. І гэтак амаль у кожным горадзе дзе толькі была друкарская машына. Маса прагавіта накідвалася на газэты, да дзюрак зачытвала іх, што вялікая была моц бальшавіцкага друкаванага слова.

І хоць ніякай сыстэмы ў гэтым аддзеле выстаўкі няма, хоць ніякага мастацкага аздобленьня і афармленьня тут ня прыдадзена, хоць бязумоўна можна было прыдаць яму больш прывабны выгляд, усё-ж гэты аддзел дасягае сваёй мэты—даволі поўна паказвае тыя эпохі.

Друк РСФСР, УССР, ЗСФСР, друк нацменшасьцяй РСФСР і БССР ужо нашай эпохі, эпохі рэконструкцыі, эпохі новага бурлівага жыцьця, эпохі барацьбы за выкананьне плянаў социялістычнага будаўніцтва. У гэтую эпоху асабліва вырасла аграмадная організуюча-выхаваўчая роля друку. Аграмадна вырасла значэньне друку, як важнейшага рашаючага сродка штодзеннай сувязі партыі з рабочай клясай, з шырачэннымі масамі працоўных гораду і вёскі. Нявымернае значэньне друку, як важнейшай зброі за генэральную лінію партыі. Вялікая адказнасьць, якая падае на наш друк. І ад нашага друку патрабуецца падвойная бальшавіцкая выразнасьць і падвойная бальшавіцкая няпрымірымасьць.

Падыходзячы з гэткім мерылам да друку, мы, бязумоўна, на выстаўцы друку рэконструкцыйнай эпохі ніякага адказу не знаходзім на запытаньне, як друк выконвае гэтую сваю ролю. Глядач бачыць цэлую сьцяну загалоўкаў газэт, дзесяткі, сотні газэт, але па аднаму загалоўку, бязумоўна, цяжка судзіць аб тым, як газэта выконвае сваю ролю.

Некалькі думак, перад тым, як скончыць агляд гэтых аддзелаў. Ці патрэбна нам, у нашую эпоху, так організаваць выстаўку? Праўда, выстаўка робіць вялікае ўражаньне гледача колькасьцю, веліччам бальшавіцкага друку, паказвае рост нашага друку, але ці паказвае яна (выстаўка) характар нашага друку, чым ён адзначаецца ад буржуазнага друку, як наш друк організоўвае і выхоўвае масы? На жаль, мы гэтага ня бачым. Тут ёсьць так званыя „об'ектыўныя" прычыны: малое памяшканьне, брак часу і сродкаў. Але ўсё-ж мо' і тут лепей было помніць ленінскі лёзунг „лепш менш ды лепей", ці лепей было паказаць якасьць—характар друку, замест таго, каб зьдзіўляць колькасьцю. Як кажуць, вока шмат чаго бачыць на выстаўцы, але розум мала чаго атрымоўвае. Ці ня было-б больш карысна, каб наадварот было.

Гэта не абстрактныя думкі на будучыню. Праз два месяцы адчыняецца Ўсебеларуская выстаўка прамысловасьці і гаспадаркі. Наш друк будзе там шырока прадстаўлены. Трэба абавязкова выкарыстаць практыку і памылкі выстаўкі Комуністычнага Унівэрсытэту, каб унікнуць іх на Ўсебеларускай выстаўцы.

Сабраць друк усяго Саюзу надзвычайна цяжка. Лягчэй сабраць друк БССР, паколькі ўсе экспонаты можна знайсьці ў Менску. Здавалася-б, што лягчэй за ўсё было аформіць гэты аддзел,

На жаль, друк БССР прадстаўлены на выстаўцы вельмі бедна і вельмі слаба. Шмат газэт не хапае, іх зусім няма. Не хапае шмат газэт з эпохі ваеннага комунізму, не хапае шмат комсамольскіх акруговых газэт і часопісаў. Захапіўшыся агульнай колькасьцю, організатары не зьвярнулі ўвагу на тое, што выстаўка ладзіцца ў БССР і што галоўная мэта—паказаць наш беларускі партыйны і савецкі друк. Ня так ужо цяжка было знайсьці нумары Менскага „Молату“ і „Буревестника“. Партыйны друк часоў нямецкай і польскай окупацыі зусім не прадстаўлены.

З радасьцю і захапленьнем глядзімо аддзел колгаснага і фабрычна-заводзкага друку. Замест 12.635.000 тыражу ўсіх газэт Саюзу ССР у сярэдзіне 1929 г. мы ў красавіку 1930 г. мелі 22.000.000. Але гэтага мала. Агульны друк, хоць ён столькі ўзрос, усё-ж ня можа абслугоўваць кожную фабрыку, кожны завод і колгас. Зьявілася цэлая сетка газэт—1700 назваў — на заводах і колгасах. Іх рэдагуюць рабочыя ад варштатаў, рабочыя ад трактароў і плугоў. Іх складаюць і афармляюць свае рабочыя, свае рабкоры, якія песьцяць свае газэты, як добрая маці сваё першае дзіця. „Мэтпромавец“, „Чырвонае Шыла“, „Рабочае вока“, „Ваграчка“, „За колгас“.—дзесяткі газэт на заводах і колгасах Савецкай Беларусі. Ці гэта ня тое новае, што мы маем у нашым друку, ня тое новае, што яшчэ больш узмацоўвае нашу сувязь з масамі, пашырае і паглыбляе гэтыя сувязі. Мы маем багата добрых, бліскучых масавых газэт, якія сапраўды абслугоўваюць усю масу рабочых, захапляюць іх патосам будаўніцтва і вузорна кіруюць масавым соцыялістычным спаборніцтвам. За апошнія месяцы, у сувязі з бурным ростам абагуленага сэктару ў вёсцы, нарадзіўся і шпарка распаўсюдзіўся новы тып колгасных газэт. Шмат хто з іх пасьпяхова змагаецца за соцыялістычную організацыю працы, за ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны, за ўзьняцьце продукцыйнасьці працы колгасьніка.

Добра, што на выстаўцы гэтыя газэты вылучаны асобна. Гэты аддзел ня толькі паказвае, ня толькі дэмонструе, ён агітуе, ён кліча дапамагчы вёсцы колектывізавацца, памагчы колектывам будавацца.

Зусім іншае ўражаньне робіць другі пакой выстаўкі, так дзе згрупаваны замежны комуністычны і левы рабочы друк, тут значна менш газэт, тут можа адна шостая, ці сёмая частка выстаўкі, але за тое якасны бок тут лепш паказаны. Большая частка газэт паказана так, што можна іх і паглядзець і пачытаць. З штодзённых і штотыднёвых комуністычных газэт Зах. Эўропы паказаны толькі некаторыя, пераважна цэнтральныя. Нямавеедама чаму комуністычны і левы друк Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіны раскінуты па розных аддзелах. А між тым, гэтыя матэрыялы надзвычайна цікавыя, навучальныя і характэрныя.

Вось экзэмпляр Віленскай штотыднёвай „Беларускай газэты“ ад суботы, 28 кастрычніка 1928 году. Уся першая старонка зусім белая. У правым баку гэтае старонкі мы чытаем:

> „Па загаду Віленскага Гарадзкога Старосты № 3846, першы нумар нашае газэты сконфіскаваны (заенты) за наступныя стацьці: 1) „Адзіны нацыянальны фронт“, 2) „Пэрспэктывы вайны“, 3) „Праз новую здраду,—да новага ашуканства“ і 4) „Мясцовая хроніка“.
>
> Гэты (2-гі) нумар выпускаем толькі з неконфіскаванымі артыкуламі першага, пакідаючы месца сконфіскаваных чыстымі“.

Гэткіх вузораў на выстаўцы багата. Амаль кожная левая' нават проста радыкальная, газэта ў Польшчы штодзень выходзіць з вялікімі белымі плямамі. Гэта ў лепшым выпадку. У большасьці выпадкаў цэнзар зараней дазваляе нумар, для таго, каб адразу як толькі яна будзе выдрукавана, зьявіцца з паліцэйскім атрадам і цалкам заарыштаваць яе. Беларускі друк у Польшчы ведае шмат выпадкаў, калі ў працягу месяцу тая або іншая газэта нумар у нумар конфіскоўвалася. У канцы 1923 г. у Вільні выдавалася газэта „Новае жыцьцё“. Былі конфіскаваны №№ 4, 8, 10, 13 і на 13 нумары зусім забаронена. Газэты „Наш шлях“, былі конфіскаваны №№ 1, 2, 7, 17. „Сялянская Праўда“ №№ 13, 17, 21, 34.

Аддзел „У ціскax фашысцкай цэнзуры“—аддзел з найбольш характэрных аддзелаў выстаўкі. Бязумоўна, ня шкодзіла-б ілюстраваць і больш падрабязныя ўмовы „волі прэсы“ у фашысцкай Польшчы, Італіі, Балгарыі і інш.

Звычайны парадак нагляду аддзелу прэсы Віленскага Камісара за пэрыодычнымі газэтамі гэткі: надрукаваныя першыя 10 экзэмпляраў газэты адсылаюцца аддзелу прэсы, які ў працягу аднэй гадзіны павінен вырашыць сконфіскаваць гэты нумар, ці не. Калі ў працягу гадзіны нумар не конфіскуецца, дык згодна існуючых правіл газэту можна выпускаць у сьвет.




Але аддзел прэсы пры Камісарыяце Ўраду ў г. Вільна ніколі не паведамляе ані рэдакцыю, ані друкарню, дзе на машыне чакае яго рашэньня ўвесь набор газэты. І гэта з тою мэтаю, каб папхнуць газэту на страты, каб гэтым забіць ненавісную ўладам беларускую газэту. І толькі на другі дзень пасьля надрукаваньня газэты паліцыя паведамляе аб конфіскацыі № газэты, робіць вобыск у друкарні, у рэдакцыі і канцылярыі, адкуль і забіраюць ўсе заарыштаваныя ў экспэдыцыі экзэмпляры газэты, на якіх часта ўжо бываюць наклеены паштовыя маркі.

Каб стэрорызаваць тых, хто выпісвае беларускія газэты ў провінцыі і адбіць у іх ахвоту да чытаньня опозыцыйнае беларускае газэты, улада сочыць за гэтымі людзьмі, часта робіць вобыскі, нібы для выкрыцьця нелегальных газэт. Можна прывесьці яшчэ адзін цікавы выпадак. У часе конфіскацыі № 35 „Беларускае Долі“ рэдактар яе Антон Пракапеня быў арыштаваны ў памяшканьні рэдакцыі і адведзены, нібы для допыту, ў палітычную паліцыю. Там адзін з агентаў палітычнай паліцыі кінуўся на рэдактара і ўдарыў яго па твару, крыкнуўшы: „Ах ты пся крэв бальшавік. Ужо 35-ты нумар выдаеш?“

Гэтыя факты, надзвычайна яскрава пададзеныя ў кнізе „Інтэрпэляцыі“, мімаволі ўспамінаюцца, калі глядаеш на выстаўцы беларускі друк у Зах. Беларусі і асабліва тады, калі больш глыбока ўдумваешся ў характар гэтых газэт. Вось газэты беларускага пасольскага клюбу ў сойме і вось газэты Луцкевіча, Станкевіча і інш. нацыянал-фашыстых і здраднікаў беларускіх працоўных мас. І ў даным выпадку выстаўка яшчэ раз даводзіць правільнасьць ленінскай думкі, што ёсьць „дзьве нацыі ў кожнай нацыі“, і што такім чынам ёсьць дзьве мовы ў кожнай мове. Польскаму фашызму беларуская мова Луцкевіча і Станкевіча да спадобы. Беларускія газэты нацыянал-фашыстых не конфіскуюцца, не забараняюцца. А вось беларуская мова Дворчаніна і Грэцкага, беларуская мова тысяч рабочых і сялян выклікае фізіолёгічную нянавісьць польскіх паноў. Відаць на ўсё беларускае ненавісна польскаму фашызму.

Выстаўка мела багата магчымасьцяй гэты бок справы падкрэсьліць, адзначыць, паказаць. На жаль, гэта, як і шмат чаго іншага, ня зроблена. Бязумоўна, гэта першая спроба. Першы блін, хоць і мае безьліч недахопаў, усё-ж адыграе сваю станоўчую ролю, у сэнсе паказу колькаснага росту нашага друку, а таксама характару замежнага друку.



НАРЫС ІЛ. БАРАШК

# РВ-10



ПРАЦА пачынаецца ў звычайны час. А дзевятай гадзіне прыходзіць сакратар, бухгальтары, машыністкі. Рэдакцыйныя работнікі прыходзяць на гадзіну пазьней, а дзесятай гадзіне раніцы. З дзесяці гадзін пачынаюць зьвінець тэлефоны. На сталох шалясьцяць лісты новых нумароў газэт. Сакратар рэдакцыі, бялявы, здаравенны хлапчына, старанна адчыняе канвэрты з сьвежымі корэспондэнцыямі:

— Новыя!

— Ну, значыць расьцем!.. — чуецца з-за рэдактарскага стала. Сакратар упісвае прозьвішчы новых корэспондэнтаў у альфабэт, каліграфічным почаркам выводзіць адрасы і з пачкай корэспондэнцый накіроўваецца ў пакой машыністак.

— Друкуем!

— Слухайце, таварышы, цяпер лісты новых корэспондэнтаў... У колгасе „Савецкая Беларусь“ сяўба скончана, і колгасьнікі дапамагаюць індывідуальным гаспадаркам у правядзеньні веснавой сяўбы. Вітаем колгасьнікаў колгасу „Савецкая Беларусь“. Колгасы, бярэце прыклад з „Савецкай Беларусі“!

— Паслухайце рапарт...

— „Дняпроўская мануфактура“ не ліквідавала прарываў...

— Выклікаем прагульшчыкаў фабрыкі „Вэзуві“...

— Таварышы колгасьнікі з колгасу „Шлях Соцыялізму“! Мы атрымалі весткі, што ў вас насенны фонд можа сапрэць. Абавязкова заўтра бярэцеся за перапапачваньне...

Так будуецца аддзел радыёкораў. Мэтод перадачы лістоў — актыўны, г. зн. кожны ліст перадаецца з заўвагамі, выклікамі, вымовамі і парадамі. Частка корэспондэнцый накіроўваецца ў сьледчыя органы для расьсьледваньня і прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

Аб адзіннаццатай канчаецца першы прыём радыёграм. І рэдакцыйныя нажніцы тут бязьлітасныя. РОСТА выкройваецца ад ТАССУ—гэта першая опэрацыя радыёграмнага матэрыялу. ТАСС паступае ў рукі аддзелу замежнай, а РОСТА—у рукі ўнутранай інформацыі. Пачынаецца падбор, шліфоўка, пераклад, складаньне конфэрансў. Для конфэрансаў патрэбны часам спраўкі, і тады пачынаецца шуканьне папярэдніх радыёграм па пэўным пытаньні ў перадавых газэтах . . .

Тэлефонная трубка з рук рэдактара не выпускаецца. На працягу паўгадзіны рабочага дня рэдактар пабывае ў Полацку, адтуль пераяжджае ў Бабруйск, а адтуль ужо ў Гомель ці Магілеў.

Гутаркі кароткія:

— Сёньня тэлеграфам аб першым Маі ў Бабруйску.

— Гомель? Заўтра тэлефонам а чатырнаццатай матэрыял аб аглядзе грамадзкага харчаваньня..

І праз гадзіну, другую, тэлеграф прымае тэлеграму ад спэцыяльнага бабруйскага корэспондэнта радыёгазэт аб тым, як Бабруйск сьвяткаваў першае мая. Атрыманую ў Менску тэлеграму тэлеграф не перасылае пасыльным, а перадае па тэлефону пад дыктоўку. Радыё ня ведае ні часу, ні адлегласьці. Радыёхвалі даносяць да вуха радыёслухача навіны з хуткасьцю 300.000 кілёмэтраў у сэкунду. Зусім слушна, што пры такой хуткасьці пасыльны з тэлеграфу, якому патрэбен пэўны час на дастаўку тэлеграмы, толькі затрымае ў сябе лішнія

## ALLO! ALLO! СЛУХАЙЦЕ



паўгадзіны навіну, і яна ня зможа сёньня траціць на хвалі эфіру...

У рэдакцыі тэлефоны ня сьціхаюць на працягу рабочага дня. Установы перадаюць пастановы, дырэктывы аб засеўнай кампаніі, аб дню лесу, прымаецца бюлетэнь надвор'я, курсы пазык, тэлефонаграмы ад менскіх рэпарцёраў.

Пад канец рабочага дня, а трэцяй гадзіне, рэдактар садзіцца ля машыністкі, і калі ўвойдзе прыватны чалавек, дык яму здаецца, што рэдактар гутарыць з машыністкай у самым звычайным парадку інцывідуальнай апрацоўкі на тую альбо іншую палітычную тэму сёньнешняга дня, упэўнівае, тлумачыць ёй. Але гэта ня так. Машыністка—гэта толькі першы непасрэдны слухач гутаркі рэдактара; праз гадзіну-другую гэтую-ж самую гутарку будзе чуць па-радыё дзесяцітысячная аўдыторыя, для якой і прызначаецца гутарка, як і кожнае слова ў радыёперадачы.

У дзесяцітысячнай аўдыторыі ўлічаных радыёслухачоў (а ў нас багата і „радыёзайчыкаў") інтарэсы самыя разнастайныя, узрост самы рознастайны, а адукацыя самая размаітая. Таму кожная радыёперадача мае сваіх слухачоў, свой дзень і гадзіну. Піонэры і школьнікі слухаюць піонэрскія перадачы, комсамольцы—„Чырвоную Зьмену" па радыё, радыёаматары — „Радыёаматар" і г. д., і г. д.

Але тут трэба зрабіць маленькую папраўку. Ня ўсе яшчэ радыёслухачы ўмеюць рацыянальна скарыстоўваць радыё, — іншы радыёаматар адзяе навушнікі роўна а пятай і зьнімае а дванаццатай, гэта значыць тады, як Беларускі радыё-цэнтр пажадае яму:

— Спакойнай ночы...

А шаснаццатай гадзіне радыёгазэты завёрстываюцца на рэдактарскім стале, канчаткова ўстанаўляецца парадак перадачы, нумаруюцца лісты, поўныя сьвежых навін, рэдактар падпісвае іх, і працоўны дзень рэдакцыі радыёгазэт скончаны. Загадчык радыёвяшчаньня ўстанаўляе канчатковую програму сёньнешніх перадач, і цяпер гаспадар усяго здабытага за дзень—дзяжурны дыктар.

* * *

Радыёпрэса працуе па прынцыпу:

— Будуем газэту без паперы і адлегласьці!

Гатовыя, афармленыя газэты паступаюць ня ў друкарню да наборшчыкаў, а да дыктараў. Паперы на радыёгазэты траціць ня трэба, ня гледзячы на іх салідны тыраж. Дыктар — адзіны чытач у радыёгазэце. Толькі ён адзін чытае, а ўсе радыё-слухачы яго слухаюць. Таму, перш чым прачытаць у мікрофон, дыктар знаёміцца з матэрыялам, перачытвае сам для сябе — рэпэтыруе. Часам спатыкае дыктар памылку, і памылка своечасова выпраўляецца, а часам і сам памыляецца, паспадзяваўшыся на свае сілы.

Зойдзем у нашу студыю. Вялікі прасторны пакой, мякка высланы чырвоным, пушыстым дываном, задрапіраваны матэрыяй на сьценках, гэта для таго, каб ня было рэзонансу, падвойных гукаў. Багата сьвятла. Пюпітры для нот, крэслы для музык, рояль, дыктарскі столік у глыбіні студыі—вось і ўся мэбля мікрофоннай. Над столікам дыктараў падвешаны белы марму-равы кубік, з вугальнай, гукаадчувальнай мэмбранай. Гэта — мікрофон.

Роўна а семнаццатай гадзіне радыётэхнік Голер дае званок у студыю, запальваюцца сігналізацыйныя чырвоныя электралямпачкі. Гэта азначае — мікрофон уключаны. Над уваходнымі дзьвярмі ў студыю запальваецца чырвоны надпіс:

Мікрофон працуе, уваход забаронены!

І цяпер у студыі ніводнага лішняга чалавека, ніводнага лішняга слова, ніводнага лішняга гуку. Дыктары вельмі спрытна навучаюцца разумець адзін аднаго на мігі, і гутараць паміж сабою, як нямыя. У тым выпадку, калі не разумеюць на мігах, адзін другому пішуць на лістку паперы... Патрэбна цішыня...

Дзяжурны дыктар вядзе перадачу. Радыёслухач заўсёды чуе пачатак:

— Слухайце, слухайце, гаворыць Менск, гаворыць Менск, Радыёстанцыя імя Саўнаркому Беларусі РВ 10, РВ 10, хваля 700 мэтраў...

— ... Адначасова працуе Гомельская радыёстанцыя імя тав. Сталіна... Добры вечар, таварышы, радыёслухачы... Пачынаем нашы сёньнешнія перадачы пасьляабедзеным концэртам...

... Вылучаюць высокую частату лямпы накалу ў апаратнай радыёстанцыі... Гудзе мотор...

Пачатак працы — устаноўлены трафарэт. Назва станцыі. Дыктар гаворыць мэханічна...

І вось пачаліся перадачы. Радыёслухач слухае пасьляабедзены концэрт, піонэры чуюць свае піонэрскія перадачы. беларуская радыёгазэта перадае навіны са ўсяго сьвету аб сьвяткаваньні Першага мая, слухач чуе гутарку агранома, доктара, дэклямацыю вершу поэта і лекцыю выкладчыка — профэсара Рабоча-Сялянскага Радыё-Унівэрсытэту. Адзін за другім зьмяняюцца прамоўцы нябачанай тысячнай аўдыторыі радыёслухачоў. Іншыя з прамоўцаў скардзяцца:

— Цяжка гаварыць па радыё, ня бачачы сваіх слухачоў...





— А вы сабе іх уяўляйце... Уявеце, што ваша аўдыторыя амаль кожны дом у Менску, сотні чырвоных куткоў з гучнагаварыцелямі на акрузе, тысячы дэтэктарнікаў з прыёмнікамі Шапачнікава і аднавухімі тэлефонамі,— так адказваюць радыёпрацаўнікі.

Пасьля двух-трох выступленьняў дакладчык звыкаецца, пачынае ўяўляць аўдыторыю, і тады ён гаворыць з радыёслухачамі праз мікрофон самай звычайнай гутаркай.

Беларуская радыёгазэта налічвае да двухсот радыёкорэспондэнтаў. Праўда, лік гэты малы, але калі сказаць, што восеньню мінулага году было ўсяго 10—20 радыёкораў—дасягненьні радыёпрэсы відавочны. Тыя 10—12 лістоў з рабкораўскімі допісамі ў радыёпрэсу, якія атрымоўваюцца штодзенна з самых глухіх куткоў Савецкай Беларусі, гавораць аб тым, што пачатак новай формы сувязі гораду з вёскай, зьяўленьне радыёкорэспондэнта,— мы сёньня маем.

У часе славесных перадач слухач робіцца змораным. Для адпачынку слухачу музычны кіраўнік Радыё-цэнтру, кучаравы музыка Любан дбае аб музычнай ілюстрацыі ў газэтах. Музычныя канцоўкі, музычныя старонкі, пасобныя музычныя нумары замяняюць малюнкі, карыкатуры, фотографіі ў друкаваных газэтах.

А дваццаць першай гадзіне славесныя перадачы спыняюцца. У заключэньне перадач слухач чуе радыё-концэрт. Беларускі радыёвяшчальны цэнтр мае свой уласны оркестр, дзе сабраны музычныя сілы Менску, мае сваіх солістых-сьпевакоў, артыстых. Час-ад-часу слухач чуе па трансляцыі праз Менскую радыё-станцыю чырвоную Маскву, Ленінград, Харкаў, а таксама Будапэшт і Бэрлін.

І так, як трафарэтны пачатак, трафарэтная і канцоўка працы радыёстанцыі:

— На гэтым, таварышы, мы канчаем нашы сёньнешнія перадачы... Перадачы былі організаваны Беларускім радыё-цэнтрам і вяліся праз Менскую імя СНК БССР радыёстанцыю на хвалі 700 мэтраў... Слухайце нас заўтра... канец... канец...

Запаздалы прахожы, праходзячы ля вежы Менскага гадзіньніка, чуе з радыёрупараў гукі „Інтэрнацыяналу", якія плывуць на хвалі Менскай радыёстанцыі па эфіры далёка за межы Савецкай Беларусі...

Радыё ня ведае межаў...

* * *

А назаўтра радыё, тэлефон, тэлеграф, пошта прыносяць на Радыё-цэнтр новыя навіны аб новых падзеях на ўсёй зямной кулі. І са шпаркасьцю сілы сьвету Менская радыёстанцыя расьсейвае заклікаючыя да барацьбы за прамфінплян, за суцэльную колектывізацыю за ліквідацыю кулацтва як клясы, за ўздым рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах, бадзёрыя, поўныя пафосу соцыялістычнай рэволюцыі, словы.

Май 1930 г.



# ГОРАЦКАЯ АКАДЭМІЯ ПРАЗ ПЯЦЬ ГОД



МАКЕТ ДА 1-ай УСЕБЕЛАРУСКАЙ ВЫСТАЎКІ СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

# АКУЛЯРЫ..

Нарыс Я. ЛІМАНОЎСКАГА ▪ ▪ Фото Ўл. Семянякі

Ад дзядуні Крылова мы даведаліся, што акуляры не маглі быць карыснымі для малпы, відаць таму, што яна ня досыць разумная жывёліна і не магла правільна скарыстаць гэтую вынаходку чалавека. Нам вядомы амаль не з дзяцінства і іншы выпадак, калі акуляры аказаліся карыснымі аж двум людзям: карыстаўся, праўда, імі пан, а карысьць была селяніну. Уявім сабе на хвілінку гэткі малюнак.

Было гэта яшчэ тады, калі дзесьці далёка ад родных месц, там дзе „Макар цялят пасьвіў“ і тады, калі наш край часам называлі... „курловіяй“ і калі туды, на далёкую „Макараву зямлю“, пасылалі ўсіх тых, хто адважыўся быць нездаволеным сваім жыцьцём,—калі... Дык ужо-ж ня варта ўспамінаць на ўсё, што было раней. Прыйшоў селянін да пана прасіць грошы за падзёншчыну. Увайшоў нясьмела ў панскі пакой і са звыклай палахлівасьцю шукае слоўца да пана наконт запрацаваных грошай. Пан неахвотна бярэ кніжкі, дзе запісаны падзёншчыкі і ляніва шукае ня зусім прыемнае яму прозьвішча селяніна.

— Няма цябе, не запісана,—адказвае пахмурна.

— Дык як-жа, паночку, шэсьць дзён працаваў. Касілі тады ў алешніку, а пасьля ў Крывым Яры. Вось, як сягоньня памятаю, што касілі. Яшчэ было раз зранку, сонца прыпякло, пасьля дождж пайшоў з грымотамі. Пярун стрэліў у бярозу, што на Крывым Яры расьце,—спрабуе селянін прыпомніць пану ўсе акалічнасьці. А самога крыўда працінае, што пан можа не заплаціць. Трапляецца і так. Не запісаў у кніжку і давядзі потым, што працаваў.

Пан бачыць, ня выходзіць селянін з пакою і, каб пазбавіцца няпрыемнага госьця, бярэ і яшчэ раз праглядае кніжку. На гэты раз ушчапіў на нос акуляры.

— Макарэня зваць, кажаш?

— У самы раз паночку, гэта я і ёсьць.

— Ну, аказваецца касіў.

У селяніна абурэньне і крыўда зьмяшалася з радасьцю і ён, непадроблена-шчыра дзякуе пана.

Успомнім яшчэ, што нашы сучасныя карыкатурыстыя маюць часта звычай маляваць бюрократа, валакітчыка і галавацяпа ў вялікіх акулярах. Гэта няправільны падыход. Больш таго, гэта паклёп на такую карысную прыладу, як акуляры. Акуляры—не асаблівасьць бюрократа. Каб гэта было-б верна, дык у газэтах ня пісалі-б вось так: „PCI дала яму акуляры, каб лепш бачыў недахопы свае ўстановы“.



Вылучэнка-актывістка т. Хацінская, работніца Віцебскае акулярнае ф-кі.

Акуляры маюць досыць рознастайнае прызначэньне Першае самае простае прызначэньне акуляраў—гэта захаваць вочы ад знадворнага пашкоджаньня: пылу, пілавіньня, адшчэпкаў тых прадметаў, што пры вырабніцтве сеюць брызгі і г. д. Гэта звычайнае шкло, толькі апраўленае так, каб вока было захавана ад пашкоджаньня. Робяцца акуляры з каляровым шклом. Іх задача захаваць зрок ад тых праменьняў сьвятла, якія шкодзяць яму. Такія акуляры зьяўляюцца фільтрам сьвятла. Яны прапушчаюць усе праменьні сьвятла, акрамя таго, які патрэбна затрымаць, каб вока магло лягчэй успрымаць прадметы.

Акуляры са сьветлым шклом, што прыпісваюцца дактарамі, маюць абавязкова няроўную паверхню шкла. Яно бывае пукатае або ўгнутае. Такое акулярнае шкло-лінза пераламвае праменьні сьвятла і дае ім патрэбны для вока кірунак. У залежнасьці ад формы шкла праменьні або сканцэнтроўваюцца або расьсейваюцца. Прадметы, бачаныя праз такое шкло, выглядаюць большымі або меншымі ў залежнасьці ад таго, якія віды зроку трэба выправіць: блізказрочнасьць, далёказрочнасьць, касавокасьць, астыгматызм.

Ужываньне акуляр даволі значнае: аб гэтым мы можам пераканацца звычайнымі назіраньнямі Шырокае ўжываньне акуляр зразумела ставіць задачу разьвіцьця акулярнае продукцыі. Акулярных фабрык у СССР ня шмат. Адна з іх менавіта знаходзіцца ў Віцебску.

Раней тут была невялікая, больш саматужнага тыпу акулярная майстэрня. Гэта майстэрня нават ня была нацыяналізавана. І толькі пару год таму назад майстэрня перайшла пад загад дзяржавы. З таго часу яна і пашырылася ў акулярную фабрыку. У дзраўляным асабняку, з досыць утульнымі пакойчыкамі, вузенькімі і стромкімі сходкамі на другі паверх, у асабняку,—больш прыстасаваным да сямейнае буржуазна-мяшчанскае ўтульнасьці, разьмясьцілася кіраўніцтва фабрыкай і яе грамадзкія організацыі. Побач вырас мураваны будынак, нова адбудаванай фабрыкі.

На ўсім гэтым ляжыць яшчэ адбітак няскончанага будаўніцтва. Сапраўды фабрыка мае тэндэнцыі яшчэ больш пашырацца, расьці. Але ўжо і зараз яна працуе досыць шпаркім тэмпам. Зайдзем туды, глянем, як-жа вырабляюцца гэтыя „другія вочы“, якія процэсы адбываюцца на фабрыцы маладой савецкай (пакуль што толькі акулярнай) оптыкі.

Усе процэсы апраўнага цэху мэханізаваны. Спэцыяльныя машыны штампуюць нікелевы дрот, згінаюць яго ў кружочкі, значаць месца, дзе ён павінен рэзацца на паасобныя часткі. Асобныя варштаты штампуюць, праразаюць, сьвідруюць усе іншыя дробныя часткі. Некалькі варштатаў заняты зборкай гэтых частак, зьнітаваньнем іх. У цэху яшчэ даволі прасторна, ёсьць магчымасьць павялічыць лік рабочых.

Тут вырабляецца белая нікелевая аправа. Шыпяць сталёвыя пілкі, шугаюць, стукаюць штампавальныя прэсікі, дзьмуць вострымі струменькамі сінява-залацістага полымя газовыя горны зьнітавальных варштатаў. Няма тут грукату, волатаў сталі і жалеза,—цяжкіх прэсаў, малатоў, трансмісій індустрыі. Але і гэты меншы рытмічны гул робіць уражаньне далёкага індустрыяльнага водгульля.

Так па чарзе праз варштаты і спрытныя рукі работніц праходзіць аправа. Мінае аправа зьнітавальныя варштаты і гатова. Цяпер трэба толькі зьняць з яе цьмяна-задымлены колер,—адбяліць. У паасобныя камеры ўкладваецца патрэбны лік апраў, наліваецца туды мыльная вада і насыпаюцца дробныя сталёвыя кулькі накшталт шроту. Машына з камерамі прыводзіцца ў рух нібы барабан у пральні, і кулькі разам з намыленай вадой абціраюць і мыюць да бляску аправу. Гэта падсобны цэх.



Цэнтроўка шкла для акуляраў

Асноўным цэхам фабрыкі зьяўляецца—шліфавальны. Шкляныя кружочкі—паўфабрыкат награюцца на звычайнай пліце. Жалезная міска, падобная на ўскраек адрэзаны ад вялікай кулі, абліваецца смалой. Нагрэтыя шкелкі раскладваюцца кожнае на сваім месьце і прыціскаюцца так, каб яны прыліплі да міскі. Уся міска заклеена шкелкамі. З чорнага бляску смалы зьзяюць шкляныя кружочкі. Міска ўкладваецца ў варштат, а затым такая самая па форме міска, толькі ўгнутая або пукатая прыкрывае шкелкі. У варштаце злучаны дзьве міскі, адна аблеплена шкелкамі. другая апраўлена наждаком. Сам працэс шліфоўкі заключаецца ў тым, што міска з наждаком трэцца па ніжняй місцы, дзе прыклеены шкелкі, нібы залішня-вялікая шапка на лысай галаве. Знадворны бок шкелак атрымлівае форму ў залежнасьці ад таго, як яны наклеены, звонку ці ўнутры міскі. Першы працэс абтачваньня адбываецца наждаком з больш буйнымі зернямі. Затым наждак падаецца больш дробнымі зернямі, аднак, калі ўжо скончана абточваньне шкла, яно мае яшчэ цьмяна-шурпаты выгляд. Патрэбна шкло зрабіць чыстым сьветлым, адшліфаваць. Шліфоўка адбываецца гэткім самым спосабам, толькі наждак замяняецца зараз шчыльна спрэсаваным лямцам, які намазваецца спэцыяльнай мастыкай – крокусам. Нарэшце шліфоўка скончана, смала разам са шклом адбіваецца ад міскі. шкло ачышчаецца ад смалы, абмываецца і пераходзіць у наступны, сортыровачны цэх.

Памер пукатасьці або ўгнутасьці шкла (дыоптр) залежыць ад таго, на якой місцы яно абточвалася, — больш пукатай ці больш плоскай. Шкелкі з найбольшай пукатасьцю або ўгнутасьцю трэба ўжо абточваць ня цэлай сэрыяй, а асобна на маленькай больш круглай місцы.



Шліфавальныя варштаты.

Шліфавальны цэх, дзе радамі расстаўлены варштаты, займае найбольшае памяшканьне ў будынку і таму мае шмат яшчэ вольнага месца. Тут яшчэ значныя пэрспэктывы для павялічэньня цэху. У цэху цёпла і парна. Пара хмаркамі расьцілаецца над варштатамі, нібы ў комунальнай лазьні, калі яна ня досыць ацеплена. Сапраўды тут сьцюдзена ў параўнаньні з лазьняй, але залішне цяпла для работы пры варштаце. І рабочыя, зашмальцаваныя сьветла-ружовым крокусам, больш падобны да маляроў, чымся да шліфавальшчыкаў, маюць пры тым нейкі плякатна сымболічны выгляд. Нібы хто апрануў іх у чырвонаружовую вопратку.

Ляборатория — ціхі і спакойны аддзел фабрыкі, дзе правяраюць і сортуюць ужо гатовую продукцыю—акулярныя шкелкі. Тут асобай прыладай вымяраецца пукатасьць і ўгнутасьць (дыоптр) шкелак, ставіцца яе нумар, па якім потым і падбіраюць акуляры. Праз спэцыяльныя прылады правяраецца кожнае шкелка ці няма на ім браку. Побач знаходзіцца і другі—апраўны цэх: гэта выраб апраў цэлулойдавых,—г. зн. „рагавыя акуляры".



Абточка краёў шкла.

Ідзем у мэханічны цэх Новенькія, невялікія машыны, нібы шахматы перад бойкай, разьмясьціліся ў прасторнай залі. Машыны мэханічнага цэху, як і іншыя машыны фабрыкі выпісаны з-за мяжы.

— Вырабляем усе часткі машын і нават можам рабіць некаторыя машыны, на гэтых варштатах,—не бяз гордасьці хваляцца рабочыя. Машыны мэханічнага цэху пераважна штампавальныя, але ёсьць тут і варштаты для ўсіх спосабаў апілоўкі жалезных частак, токарныя варштаты і г. д. Сапраўды ад гэтых новенькіх машын, ад гэтай невялікай індустрыі, якая цалкам можа абслужыць усе патрэбы фабрыкі, вее бадзёрнай узьнятасьцю.

Наш фото-корэспондэнт ужо з большай цікавасьцю абходзіць каля машын, шукае „індустрыяльных мотываў". Нарэшце адна машына, што нібы комэта, сыпле пучок іскраў, падабалася яму больш і ён шукае месца адкуль яе лепш сфотографаваць. Пучок іскраў ад жалезнай чвараграйкі! Прыгожа. Але можа гэтая машына і ня лепшая па сваёй тэхніцы за іншыя. Напрыклад, нашыя фото-корэспондэнтыя і нават мастакі параюць, як узорную прыгожасьць, высокія фабрычныя коміны, што дыхаюць хмарамі густога, чорнага дыму. Вялізныя чорныя пэнзлі ў чырвонай аправе, на фоне спакойнага блакіту ці сонечнага ліхтара. Таксама прыгожа. Але як кажуць людзі, што лепей ведаюць гэтую справу, чорны дым бывае ад таго, што топкі ў гэтых фабрыках недасканалыя, што значны процант апалу неперагарае і бескарысна выходзіць чорным дымам. Аказваецца, што чорны дым з фабрычнага коміну паказвае толькі на недахоп фабрычнае печы. Аднак можна даравацъ фото-корэспондэнтам гэтую памылку, бо па-за чорным дымам і недасканалай фабрычнай печкай хаваецца соцспаборніцтва, ударніцтва,—вялікі энтузыязм мільёнаў працоўных. Комін дымам, як тычкаю, паказвае, дзе пырскае энэргія новае формы працы.

Ён мае больш практычнае прыгожасьці, чымся ідэал прыгожасьці.. народнікаў і ідэалізатараў мінуўшчыны, беспрадметных лятуценьнікаў, а менавіта: буслава гняздо, незалежна дзе яно зьвіта,—на алешыне, што каля сажалкі, на абдзёртай страсе клуні... ці на коміне фабрыкі.

Але-ж мы гаворым не пра „Чырвоны Пуцілавец", а пра акуляры.

Фабрыка яшчэ маладая. Большасьць рабочых на гэтай фабрыцы ці правільней работніц (бо іх тут больш, чымся рабочых) таксама маладыя. Хоць невялікі яшчэ вытворчы стаж у работніц, а яны ўжо зараз за ваімі варштатамі робяць тысячы опэрацый. На першы погляд, чалавеку, які ня досыць азнаёмлены з гэтай вытворчасьцю, здаецца, што гэткі лік опэрацый немагчымы на працягу рабочага дня. І толькі ў работніцы, што наглядае за тачыльнымі варштатамі, а кожная з іх мае па некалькі варштатаў, вытворчы стаж і лік гадоў значна большы чымся ў рэшты. Таму, мабыць, калі фото-корэспондэнт наводзіць на іх свой апарат, яны неяк зьбянтэжана папраўляюць свае хустачкі, каб і на фотографіі атрымацца ня горш, чымся ў рубрыцы падняцьця вытворчасьці працы.

Спэцыфічнай кваліфікацыі патрабуецца і для работніц сартыровачнага цэху. Ім патрэбна мець добры ўзрок, адпаведныя веды і навык у працы. Павялічэньне фабрыкі ставіць задачу падрыхтоўкі сабе кадраў.

Віцебская акулярная фабрыка, гэта лішні доказ нашых дасягненьняў у галіне досыць складанае вытворчасьці, продукцыя якой у мінулы час прывозілася з-за мяжы.

Праўда, пэўная частка сыравіны і прыладаў (паўфабрыкаты акулярнага шкла, крокус і нават шліфавальны лямец) прывозіцца з-за мяжы. Але неўзабаве з разьвіцьцём нашае прамысловасьці адпадзе відаць патрэба ў імпорце гэтых рэчаў. Савецкая оптыка яшчэ ставіць першыя крокі, аднак, гэта крокі—бадзёрага жыцьцяздольнага юнака, які ўпэўнена і сьмела ідзе ў будучыню.

# АКУЛЯРЫ і ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ

# ВІЦЕБСКАЯ *АКУ ФАБ



Акуляры і здароўе рабочых. Здавалася, што паміж імі агульнага? А ў рэчаіснасьці паміж імі супольнага шмат.

Акуляры—пільна патрэбная рэч для вялікіх пластоў пролетарыяту. У мэталюргічнай і мэталёваапрацоўчай прамысловасьці рабочыя адзяваюць акуляры, каб мэталічныя пырскі не сапсулі ім вочы; шофэр аўтомобіляў, аўтобусаў трактара, лётнік ніколі не паедзе ў далёкую дарогу не адзеўшы акуляры. Наогул, значная частка чалавецтва носіць акуляры або для таго, каб лепш бачыць, або для таго, каб на працы не сапсуць сабе вочы. Капіталістычная „ахова" працы вельмі мала клапацілася і клапоціцца пра здароўе рабочых і бязумоўна, што ў нашай краіне да рэволюцыі попыт на акуляры быў малы, а невялікія патрэбы задавальняліся замежным увозам.

Пераможны пролетарыят, прышоўшы да ўлады, пачаў выказваць свае патрабаваньні і на гэты тавар. Побач з шырока разгорнутай індустрыялізацыяй СССР, савецкая дзяржава ўжывае

# ...Акулярная фабрыка





вялікія захады да аховы здароўя рабочых мас, занятых у прамысловасьці. А ў сыстэме усіх мерапрыемстваў па ахове працы рабочых акуляры займаюць пачэснае месца.

Вось чаму вялікае значэньне мае Віцебская акулярная фабрыка, якая за два-тры гады вырасла з дробнай саматужнай майстэрні ў буйную фабрыку, абсталяваную найноўшымі замежнымі машынамі. Фабрыка штогод расьце, пашыраецца, будуе новыя корпусы.

На здымках: наверсе, справа налева.

1) Наклейка шкла на шліфальнай пліце.

2) Токарны варштат.

3) Работніца т. Скварцова—Н м. Дырэктара фабрыкі:

унізе справа на лева:

4) Мэханічная абточка мэталю.

5) Разрэзка аправаў.




# Лістоўкі

Апавяданьне Н. БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА

Малюнкі Я. Разанава

## I

ЗАЛІТЫ пякучымі праменьнямі паўднёвага сонца Тонкін ляніва сьцішыўся ў дрымоце адпачынку. На вуліцах, распаленых ад сьпекі, было пуста. Усе, і багатыя і бедныя, і шчасьлівыя і нешчасьлівыя, імкнуліся ў гэты час схавацца дзе-небудзь у цень кафэ, віл, ці ў убогіх хацінак, каб перачакаць гэтую ўтомлівую гарачыню. І толькі тады пойдуць яны на вуліцу, калі вечар увойдзе ў свае правы і сьвежым сваім халадком нальле ўсе клеткі чалавечага цела пругкаю бадзёрасьцю, выйдуць,—хто для забавы і пацехі, а хто для цяжкае, маруднае працы, што адбірае так многа сіл, і дае так мала заробку.

І хіба толькі які-небудзь легіёністы, салдат францускага „легіёну чужынцаў“, бесшабашны гуляка, у ліха зьбітым на карак кэпі, пройдзецца па вуліцах, ідучы да хаты свае чарговае жонкі,—у Інда-Кітаі легіёністыя падпісваюць шлюбныя контракты з тубыльскімі дзяўчатамі на пэўны тэрмін,—ці цяжка пратупае па раскаленым асфальтавым бруку патруль паліцыянтаў. Тады зноў надыдзе цішыня, распаленая, пякучая цішыня інда-кітайскага паўдня, цішыня, якая расслабляе чалавечую сілу, чалавечую волю.

— Падрыхтоўка да сьвята Першага мая ідзе поўным ходам,—казаў чавек у халаце і з люлькай опіуму ў руках.—Усё гаворыць за тое, што сёлета дэмонстрацыя будзе з найбольш удалых.

— Грузчыкі ў порце, чыгуначнікі і трамвайныя служачыя ідуць разам з намі,—заўважыў з свайго боку другі. Усе яны выйдуць на вуліцу пад нашымі лёзунгамі.

— Гэта ўсё так, зноў загаварыў першы, які, як відаць, адыгрываў ролю старшыні гэтага, крыху дзіўнаватага, сходу людзей, якія выглядаюць сапраўднымі курцамі опіуму, але фактычна з курэньнем опіуму ня маюць нічога супольнага.—Усё гэта так... Але вось бяда: дагэтуль яшчэ ня здолелі мы ўцягнуць у наш рух рабочых цукровага заводу, дзе працуе шмат тубыльцаў, анамітаў, кітайцаў, малайцаў.

І падумаўшы крыху, ён дадаў:

— А між тым сярод гэтых рабочых апошні час пануе вялікае незадавальненьне... Трэба было-б абавязкова ўцягнуць і іх у дэмонстрацыю Першага мая. Толькі вось, на жаль, у нас пасьля арышту Эт'ена ніякае сувязі няма з гэтым заводам...

— Трэба паспрабаваць — заўважыў нехта з прысутных.—Трэба паслаць агітатара на завод, раскідаць там лістоўкі...



**У гэты дзень ён нават ня чуў звону сваіх ланцугоў.**

— Я ўжо думаў пра гэта і нават нарыхтаваў проклямацыі на некалькіх мовах,—тонка ўсьміхнуўся старшыня. — Усё пытаньне ў тым, каб знайсьці шчырага і пэўнага чалавека на гэту рызыкоўную справу, які да таго ж яшчэ і ведаў добра анамітскую мову, на якой гаворыць большасьць рабочых заводу. Ці ёсьць у нас такі чалавек, вось у чым пытаньне...

— Ёсьць таварыш Марсэль,—пачуўся раптам нечы ціхі голас з глыбіні курыльнага пакою.—Я пайду на завод... я раздам там проклямацыі і пагутару з маімі зямлячкамі пра чырвоны май...

— Ты Іен-Бэй? — зьдзіўлена ўзьняў голас Марсэль.—Гм.. а і то праўда.. Як гэта я раней сам не падумаў пра цябе...

І, уважліва ўзіраючыся ў твар анаміта, што наблізіўся да яго, Марсэль дадаў:

— Але ці ведаеш ты, Іен-Бэй, што гэта вельмі адказнае і небясьпечнае даручэньне... А ў цябе—жонка, дзеці...

— Я—комуністы, таварыш Марсэль,—у непарушным спакоі пацепаў плячыма Іен-Бэй.—Давайце проклямацыі, і ўсё будзе выканана.

— Ну, то ў такім выпадку пойдам разам,—сказаў Марсэль, зачыняючы сход. Ён скінуў з плеч халат і з пагардай адкінуў у бок люльку з опіумам, што ўвесь час трымаў у руках, вельмі тонка падрабляючыся пад заядлага курца. — Сёньня на начной зьмене акурат і трэба будзе распаўсюдзіць нашыя лістоўкі... Тады заўтра раніцою пра іх будуць ведаць усе рабочыя цукраварні.

Ноч.

Іен-Бэй ідзе па вуліцы.

У галаве рояцца ўспаміны.

Вось імпэрыялістычная вайна. Дзяткі тысяч анамітаў мабілізаваны францускай уладаю, адарваны ад родных сваіх вёсак, морамі, акіянамі завезены ў Эўропу. Разам з іншым мабілізаваны і Іен-Бэй. Разам з іншымі ён укінуты ў самае пекла,—на залітыя кроўю палі Шампаню, на засыпаныя шрапнэлямі фарты Вэрдэну, на разбураныя вуліцы Рэймсу...

Колькі новых уражаньняў, новых пачуцьцяў, новых пытаньняў. І вось ён, Іен-Бэй пачынае думаць, думаць, думаць... Вось і зразумеў ужо дзе-што, дзе-што пачаў кеміць... Але гэта яшчэ ня ўсё. Гэта ня ўсё...

І чаму-ж гэта я даўней ня думаў аб гэтым, пытае ён сам сябе.

І праўда: раней гэтыя пытаньні ніколі не турбавалі яго...

... Потым—дэмобілізацыя, зварот у Тонкін, колькі год працы грузчыкам на прыстані... І тут сустрэча з таварышамі, якія далі адказ на ўсе яго сумненьні, якія паказалі яму адзіна справядлівы шлях змаганьня і перамогі. Вось апавядаюць яны пра колішнюю Расію, дзе няма больш багатых і бедных, эксплёататараў і эксплёатаваных, дзе да ўлады прыйшла рабочая кляса. Прагна слухае Іен-Бэй, а самому ня верыцца неяк: неяк занадта ўсё гэта дзіўна, надзвычайна.

Затое потым зразумеў, што ўсё гэта ня выдумкі, не фантазія. Тады ўсім сэрцам аддаўся рэволюцыйнай рабоце, усё жыцьцё рашыў аддаць справе вызваленьня працоўных ад эксплёатацыі капітала...

... І тады зрабіўся комуністым...

Іен-Бэй ішоў па вузкіх вулічках Тонкіну. Лёгкі ночны ветрык з мора разьдзьмухваў халат, і Іен-Бэй увесь час запахваў яго, баючыся, каб выпадковы прахожы, магчыма, які шпег „соцыялістага“ Варэна, францускага губарнатара Інда-Кітаю, не заўважыў схаваных пад халатам лістовак...

У сіняй далі прадмесьця відаць былі коміны цукраварні.

— Толькі-б прайсьці тое месца.,. дзе варта...—думаў Іен-Бэй.

... А там, далей—дзіравы плот, праз які можна залезьці проста ў цэнтральны корпус... Толькі прайсьці-б каля будкі фараона.

* * *

А ў галоўным корпусе бровару работа ішла сваім парадкам. Стружданыя, змарнелыя ад сыстэматычнага недаяданьня ана-

міты чарадою цягнулі на сьпінах цяжкія мяшкі з гатовым цукрам. Іншыя—пакавалі вялізныя скрынкі, цягнулі іх на панадворак, дзе другія прымалі іх цяжар і грузілі яго ў спэцыяльна падрыхтаваныя вагоны.

—Гэй, варушэцеся, чэрці,—крычалі майстры на рабочых, не зважаючы на тое, што тыя працавалі ўжо і так сапраўдным шалёным тэмпам.

— Варушэцеся, чэрці, калі ня хочаце заўтра стаяць па-за брамаю...

І раптам...

— Таварышы! Стойце!..

З-пад купалу пачуўся нечы незнаёмы голас.

— Даволі эксплёатацыі! Хопіць зьдзекаў! Годзе карацца!.. Усе на вуліцу! На дэманстрацыю Першага мая!

— Што такое... Хто гэта?..—пыталіся людзі, рабочыя і майстры, са зьдзіўленьнем пазіраючы ўгору, дзе на аднэй з многалікіх жалезных лесак стаяла нейкая незнаёмая постаць, і сьмела кідала ўніз у натоўп грубыя, цьвёрдыя словы...

— Гэта провокатар... Трэба яго арыштаваць,— закрычаў нехта з майстроў...

— Не, не... чакай,—адгукнулася некалькі галасоў рабочых,—ён правільна кажа...

— Годзе зьдзеквацца!.. Даволі эксплёатацыі!..

— На вуліцу!.. На вуліцу!..

— Таварышы! Вось проклямацыі нашае рабочае партыі! Чытайце іх! Чытайце і пашырайце!..

Дожджыкам пасыпаліся зьверху лістоўкі на розных мовах.

Кінутыя спрытнай рукой пасыпаліся зьверху ва ўсе куткі заводзкага корпусу лістоўкі...

Чытайце і пашырайце!..

— На табе, сволач!..

Цяжкі, бы молат, кулак заводзкага паліцыянтага апусьціўся на галаву Іен-Бэя.

— Эй, вы там!—крычалі тым часам унізе майстры.—Кідайце к чорту гэтыя дурацкія лістоўкі!.. За працу! Жыва!..

— Чорта табе лысага!..—прастарэкавалі анаміты.—У гэтых лістоўках праўда пішацца...



Дожджыкам пасыпаліся зьверху лістоўкі на розных мовах.

Яны пасьпешна засоўвалі рэволюцыйныя проклямацыі ў глыбокія кішэні сваіх зашмальцаваных портак.

III

Доўга білі Іен-Бэя ў паліцэйскім вучастку. Білі так, як толькі сьмеюць біць у паліцыі, ды яшчэ—у францускай, ды яшчэ ў колёніяльнай.

— Кажы, дзе дастаў лістоўкі,—крычаў Іен-Бэю начальнік паліцыі.—Кажы, сволач, хто паслаў цябе на цукраварню?

Але Іен-Бэй маўчаў. Маўчаў, ня гледзячы на біцьцё, ня гледзячы на тое, што кроў струменем крынічыла з разьбітага паліцыянтамі носу і роту, Іен-Бэй ня выдаў сваіх таварышоў па рабоце, сваіх таварышоў па рэволюцыйным змаганьні.

— Закаваць у кайданы гэтую сволач! Закінуць яго ў вастрог, у адзіночную камеру!—загадаў паліцыянтам іх начальнік.

І, са злосьнаю ўсьмешкаю на тоўстых губах, ён дадаў:

— Там навучаць яго размаўляць з начальствам... Там разьвяжуць яму язык.

І вось Іен-Бэй у вастрозе, укінуты ў адзіночную камеру. А хутка, у самай недалёкай будучыне, чакае яго суд, які напэўна прысудзіць яго на шмат год катаргі, калі не паставіць да сьценкі пад сьмертаносныя рулі жандарскіх стрэльб. Хіба-ж будзе маліманіцца культурны францускі буржуа з нейкім няшчасным „дзікуном"—анамітам.

І ўсё-ж такі Іен-Бэй сёньня шчасьлівы. Сёньня, Першага мая, на вуліцах Тонкіну чуецца стрэляніна. Гукі стрэлаў чуваць і тут, за вастрожнымі кратамі. З баязьлівых гутарак вастрожнага начальства Іен-Бэй зразумеў, што ў горадзе будуюцца барыкады...

— Добра, браткі.—радасна мурмоча вязень, цяжка перасоўваючыся па камеры на закутых у жалеза нагах.—Добра, браткі... змагайцеся... Перамагайце...

У гэты дзень ён не адчуваў цяжару сваіх кайданоў.

У гэты дзень ён нават ня чуў звону ланцугоў, што жалцам уеліся яму ў рукі...

## Буйнейшая ў сьвеце электрастанцыя, якая працуе на бурым вуглі.



Электрастанцыя Гольпэ-Пшорнэвіц каля Бітэрфільда ў Нямеччыне, працуе на бурым вуглі, зьяўляецца буйнейшай электрастанцыяй у Эўропе і дае ток на вялікую адлегласьць у Лейпцыг і Бэрлін. Шатурская электрастанцыя, якая будуецца ў нас у СССР, будзе яшчэ больш магутнай.

# БДТ-1 НА КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ШПАРКІМ тэмпам рухаецца наперад колектывізацыя вёскі. Кожная цяжкасьць, кожны недахоп ці памылку варожыя элемэнты выкарыстоўваюць супроць правядзеньня колектывізацыі.

Зьяўляюцца хістаньні тае ці іншае праслойкі ў вёсцы, ім супроцьстаўляецца стойкасьць і непарушнасьць праваднікоў гэтай ідэі, але і на іх іншы раз уплываюць узьнікаючыя цяжкасьці. Губляецца ўпэўненасьць. Няма зарадкі, няма бадзёрасьці Вось тут вялікую ролю і адыгрывае тэатр, які сваім сьмехам, сваім выкрываньнем ворагаў і тых хто хістаецца, можа зноў падняць бадзёры настрой мас, можа ўпэўніць няўпэўненага. БДТ1-шы гэта ўлічыў і паставіў пытаньне перад Гомельскім Акругкомам аб пасылцы тэатра на вёску ў часе правядзеньня пасеўкампаніі. Колектыў тэатру, як адзін, захацеў прыняць удзел у агульнай барацьбе за колектывізацыю. Акругком падтрымаў жаданьне тэатру. Тэатр падзяліўся на тры брыгады. Рэжысэр Міровіч напісаў п'есу, арт. Цэрах—частушкі. У парадку соцспаборніцтва брыгады падрыхтавалі п'есу і праз два тыдні тэатр, спыніўшы штодзенную працу, выехаў на раёны. Вецер, холад, дождж, дрэнныя дарогі, адсутнасьць належнага адпачынку, адсутнасьць сьнеданьня—нішто гэта не затрымлівала брыгады. Справа была зроблена ўдала. Абслужана тры раёны—Лоеўскі, Буда-Кашалёўскі, Хойніцкі. Крыху лічбаў: Брыгада № 1, Хойніцкі раён — абслужаны адзін саўгас і два колгасы. Ігралі ўдзень і ўвечары. Пастаўлена на працягу трох дзён пяць спэктакляў. Прапушчана сялянскіх дзяцей 300 чалавек, колгасьнікаў 1.500 чалавек. Пакрыта на конях 30 кілёмэтраў.

Брыгада № 2, Лоеўскі раён. На працягу чатырох дзён — 7 спэктакляў. Абслужана 6 колгасаў. Прапушчана 2.500 сялян. Пакрыта на конях 170 кілёмэтраў. Пераезды рабіліся ў большасьці ўначы.

Брыгада № 3, Буда-Кашалёўскі раён. Чатыры дні—7 спэктакляў. Абслужаны тры колгасы. 2.000 сялян. Пакрыта на конях 50 кілёмэтраў.

Зацікаўленасьць спэктаклямі з боку колгасьнікаў была надзвычайная. Сустрэчы насілі вельмі шчыры характар. Перад кожным спэктаклем праводзіліся бяседы па пытаньнях пасеўкампаніі. Будынкі ніколі не зьмяшчалі жадаючых паглядзець тэатр. Прыём спэктакляў быў вельмі добры.

Бязумоўна, тэатр зрабіў вялікую справу, што даў магчымасьць колгасьнікам паглядзець тэатр, але ўсё-ж ня ўсе маглі папасьці на спэктаклі. Гэта сьведчыць аб вялікай патрэбе вёскі, колгасаў у сапраўдным культурным спэктаклі, які разам з адпачынкам набывае для колгасьніка і выхаваўчую ролю. Бязумоўна, нідзе, як у тэатры нельга лепш паказаць сапраўдны твар нашага ворага. Тэатр і кіно, гэта слабое наша месца. У той час, як горад больш ці менш задаволены ўсім гэтым, на вёсцы голад і вялікі. Пасьля працы колгасьніку іншы раз бывае што няма дзе культурна адпачыць. Клюбы рэдка дзе сустракаюцца, а ў хатах-чытальнях не заўсёды бывае парадак. Радыё-ўстаноўкі ў большасьці папсутыя і паправіць іх няма каму. Трэба абавязкова наладзіць больш плянавае абслугоўваньне колгасаў тэатрам і кіноперасоўкамі. Наркамасьветы робіць некаторыя захады, організуючы спэцыяльныя вандроўныя тэатры, але трэба і стацыянарныя тэатры наблізіць да вёскі. Вопыт БДТ-1—разьбіўка на брыгады трэба выкарыстаць БДТ-2, БДЯТ. Грамадзкасьць тэатру заўсёды з вялікай гатоўнасьцю будзе выконваць гэту працу, якую бязумоўна трэба праводзіць толькі ў парадку соцспаборніцтва. Добраахвотныя брыгады—вось форма абслугоўваньня колгасаў. БДТ-1 мае адну такую брыгаду, якая мяркуе ў часе летняга адпачынку абслугоўваць колгасы. Усе пераезды брыгада будзе рабіць на вэлёсыпэдах, што дасьць магчымасьць пакрыцьця вялікіх адлегласьцяй незалежна ад дарогі. Глухая вёска і пляцоўку асьвятляюць вэлёсыпэднымі ліхтарамі. Пры самых няспрыяючых умовах зможа іграць брыгада. Ужо падрыхтаваны рэпэртуар, набліжаецца час адпачынку тэатра, а разам з тым і час практычнай працы брыгады. Цэлы месяц свайго адпачынку ахвяруе на гэту справу брыгада. Грамадзкасьць тэатру ўлічвае гэту цяжкую будучую працу брыгады і актуальна ёй дапамагае.

Магілеў БДТ-1.



**Брыгада № 1 Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў часе выезду ў колгасы Хойніцкага раёну (Гомельшчына).**

# 25 ГОД ТВОРЧАЕ ПРАЦЫ

ТВОРЧЫ шлях Янкі Купалы пачаўся акурат тады, калі ў раскатах грому рэволюцыі 1905 году актывізавалася ўся тагачасная грамадзкасьць былое расійскае імпэрыі. У віры рэволюцыі прабудзіліся, заварушыліся самыя рознастайныя клясавыя прапластаваньні. Як і скрозь у расійскай імпэрыі, так і на Беларусі першы заварушыўся пролетарыят, якому ў рэволюцыі належала кіраўнічая роля, заварушылася і буржуазія, у прыватнасьці маладая беларуская нацыянальная буржуазія, якой з аднаго боку цесна была ў рамках, адведзеных ёй расійскім капіталам і якая, з другога боку, добра разумеючы тую небясьпеку, якую прадстаўляў для самога яе існаваньня рабочы рух, змушана была ўжыць актыўныя захады, каб па меры магчымасьці, выкарыстоўваючы рабочую клясу і сялянства, як сілу ў сваіх мэтах, адначасова ня даць рэволюцыі перарасьці ў рэволюцыю соцыяльную, каб стрымаць увесь рух у рамках буржуазна-дэмократычнае рэволюцыі, і, нарэшце, вельмі значную ролю адыграў і рух сялянства прыдушанага падвойным прэсам,—соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, рух беларускіх сялян і беларускіх батракоў, якія павялі барацьбу „за зямлю"—супроць абшарнікаў беларускіх, расійскіх, польскіх, „за волю" — супроць царызму, супроць чыноўніцтва, што ў працягу вякоў прыдушала іх, не давала ім выйсьці на шлях зьдзейненьня іх ідэалаў, на шлях іх фактычнага экономічнага і нацыянальнага распрыгоненьня.

Янка Купала выйшаў на арэну політычных дзеяньняў акурат як песьняр-выказьнік настрояў гэтых пластоў сялянства, і гэтым абумоўлены той факт, што, прынамсі, на першых кроках яго поэтычнае дзейнасьці, у ягоных творах шмат яшчэ стыхійнасьці, несьвядомасьці, дробна-ўласьніцкае лятуценнасьці, сьцісла зьвязанае з неразуменьнем політычнага боку руху.



НАРОДНЫ ПОЭТА РЭСПУБЛІКІ ЯНКА КУПАЛА

Янка Купала зьявіўся адным з першых выразьнікаў псыхоідэолёгіі беларускага сялянства, актывізаванага рэволюцыяй 1905 г., якое праз змаганьне пачало выходзіць на гістарычную арэну, але яшчэ не ўсьвядоміла як сьлед свае ролі ў гістарычным процэсе.

„Я не поэта, о, крый мяне божа" кажа пра сябе Янка Купала, супроцьстаўляючы сябе інтэлігэнцкім „звышчалавекам";—у выяўленьні якіх „поэта" зьяўляецца нейкім напалову-боскім, містычным стварэньнем.

„Славу поэтаў", кажа ён—„разносяць па сьвеце, вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай". Але ён ня рвецца „к славе гэткай німала". Ён „ціха грае,—хто-ж ціхіх прыкмеце?" Ён—толькі „з вёскі—Янка Купала". (Т. I, ст. 41).

У гэтым—адчуваньне ім свае слабасьці, слабасьці прадстаўніка клясы, якой у гістарычным процэсе ня суджана адыгрываць кіраўнічае ролі. Але Янка Купала, як выказьнік псыхолёгіі сялянства, адчувае і сілу сваю, сілу клясы, якая, кінутая на пэўным этапе на шалі гісторыі, вырашае лёс змаганьня. Вось чаму гэткаю гордасьцю гучаць яго словы:

„Я мужык—беларус,—
пан сахі і касы;
цёмны сам, белы вус,
пядзі дзьве валасы". (Т. I, ст. 94).

Ён бачыць выразна тое праклёньне нэндзы і жабрацтва, якое наканавана сялянству ў выніку панаваньня капіталістых, тыя нялюдзкія зусім умовы жыцьця, у якіх сялянства гібее.

Бацькам голад мне быў,
гадаваў і карміў,
бяда маткай была...

Ён разумее ўжо, што „долю" ніхто не дае, што сялянству яе трэба „здабыць" самому. Але адчуваючы той тупік, у якім знаходзіцца сялянства, шукаючы выхаду з гэтага тупіка, магчыма нават усьведамляючы, што такім выхадам можа быць толькі змаганьне, ён яшчэ стаіць на асьветніцка-народніцкім пункце погляду. Галоўнай перашкодай да „здабыцьця" сабе лепшай долі ён лічыць толькі цемру, няпісьменнасьць. Ён не разумее, што гэтая апошняя сама зьяўляецца вынікам капіталістычнага ўціску, што яна зьнікне ў выніку зьнікненьня гэтага ўціску, і што ў той момант, калі пролетарыят, сялянства і ўся рэволюцыйная частка дробнае буржуазіі напружваюць свае сілы ў змаганьні за лепшую будучыню, асьветніцкія лёзунгі, заклік да вучобы гучаць барджэй рэакцыйна, чым прагрэсыўна. Ці зьяўляецца гэтае „асьветніцтва" органічным у псыхоідэолёгіі Я. Купалы часоў „Жалейкі"—аб гэтым яшчэ можна спрачацца. Але факт той, што свае песьні Купала пеяў не для буржуазіі, не „для тых сьветлых, а зласьлівых", але для „цёмных, нешчасьлівых", якія, магчыма, і не патрапяць прачытаць яго вершы. Ён баіцца, што ягоныя вершы замест таго, каб дайсьці да тых, для каго яны прызначаны, зробяцца здабыткам „молі вучонае", архіўных „пацукоў". Яго страшыць такі лёс яго вершаў, і ён з абурэньнем ўсклікае:

„спалі вас, песьні дым, чырвоны,
чым мае гэткі лёс спаткаць". (Т. I, ст. 44).

Тут мы маем з боку Купалы выразную орыентацыю на масы, выразнае імкненьне служыць „цёмным, нешчасьлівым", жаданьне, каб яго вершы былі сродкам здабываньня „лепшае долі" для шырокіх сялянскіх мас на Беларусі.

Купала на даным этапе ня бачыць выхаду для беларускага сялянства. Але ён хоча, каб песьні яго „лятаЛі ўвакруг" „над скаванай зямлёю", каб яны заклікалі да змаганьня за лепшую будучыню тых, хто яшчэ „сьпіць", „хто церпіць бяз віны", ён хоча, каб ягоная песьня гулка грымела „як званы, перуны".

Не ўсьвядоміўшы ролю сялянства ў гістарычным процэсе Янка Купала яшчэ не падняўся да ўразуменьня тых соцыял

стычных сіл, якія дзейнічалі і дзейнічаюць на вёсцы, не падняўся да дыфэрэнцыяваньня сялянства на паасобныя групы, якія знаходзяцца ў антаганізьме паміж сабою. Наадварот. Вёска ў выяўленьні Янкі Купалы выглядае зусімаднастайнай, суцэльнай, социяльна не дыфэрэнцыяванай. Але ў той-жа час аналіз вобразаў, якімі опэруе Янка Купала, паказвае яго нам як песьняра акурат бядняцкае часткі вёскі, якая „бяз прытоньня, бяз родненькай, цёпленькай хаткі", якая „з сіл малых" выбіваецца „пад чужою працай" (Т. I, ст. 68), тых беднякоў, дух якіх...

> збадзяны ў хатцы дзіравай
> на зямельцы акаванай
> бязвольнай, бясправўнай"... (Т. I, ст. 48).

Купала верыць у лепшую будучыню, ведае, што з цягам часу голад зьнікне, зьнікне бяда, але вельмі смутна ўяўляе сабе шляхі, якімі павінна сялянства ісьці да гэтае лепшае будучыні. Часам яму здаецца, што гэты шлях—асьветніцтва, часам—праца (Т. I, ст. 133). Але хоць і ня бачыць ён часам гэтага шляху, усё-ж такі менавіта бедната вясковая гаворыць яго вуснамі, калі ён кажа:

> „Нам есьці хочацца тым болей,
> чым горай голад прыгняце,
> тым рвёмся больш мы і да волі,
> чым меней к нам яна ідзе.
> Душой я вольны чалавек,
> і гэткім буду цэлы век. (Т. I, ст. 89).

Ён яшчэ зьвяртаецца да буржуазнае грамады, з прапановай „пашкадаваць" мужыка-бедняка, але ён ведае, што прыдзе час помсты, калі гэты мужык-бядак „за крыўду сваю адамсьціць,—

> будзе крыві не пабраць
> адамсьціць, аж зямля задрыжыць,
> аж віхры зашумяць, загудзяць. (Т. I, ст. 127).

Як і сама бядняцкая частка сялянства, так і Янка Купала як выказьнік яе думак, яе настрояў, часам падпадае пад уплыў іншых социяльных праплaставаньняў і гэтыя ўплывы адчуваюцца ў шэрагу яго вершаў. Ці-ж не характэрным для кулацтва зьяўляецца, напрыклад, сьцьвярджэньне, што „кепскі з нас той гаспадар, што ня мае хлеба". А такое сьцьвярджэньне мы можам прачытаць на ст. 59. т. I збору яго твораў. I ці-ж ня ўплывам „адраджэнчае" інтэлігенцыі можна растлумачыць тую іронію, з якой зьвяртацца Купала да мужыка, упікаючы яго ў тым, што, плачучы „нават" па сьвінцы, ён ня бачыць, што пагарджае сваёй уласнай мовай. (Т. I, ст. 61).

Але ў „Жалейцы", часткова ў „Гусьляры" такія настроі органічна ня зьвязаны з усёй сыстэмай яго сьветапагляду, што і дае нам права разглядаць іх як настроі наносныя. Асноўныя, найбольш эмоцыяльна-насычаныя вобразы купалавае творчасьці—гэта вобразы бядняцкія, вобразы, зьвязаныя з мужыком-бедняком, стружданым цяжкаю працаю, якога цар-голад гоніць шукаць „крывавага хлеба", гоніць на заробак на чужыя палі, прымушае кідаць і родную хату (у каго толькі яна ёсьць).



Прадстаўнік БелАПП'а пролетарскі поэта Андрэй Александровіч вітае Народнага поэта Рэспублікі Янку Купалу

I пануючы настрой у творчасьці Купалы гэтага кругабегу—гэта злосьць, злосьць на сябе, злосьць на навакольную рачаіснасьць. Але злосьць гэтая не вядзе далей скаргі, плачу, дробна-уласьніцкіх лятуценьняў, прымітыўнага социялізму, наіўных лятуценьняў аб „ураўнілаўцы". Вышэй гэтых настрояў поэт у „Жалейцы" яшчэ ня ўздымаецца.

Як об'ектам, так і суб'ектам творчасьці Янкі Купалы зьяўляецца вясковая бедната. Пра беднату вясковую пяе Янка Купала свае песьні, і гэтая-ж беднота гаворыць ягонымі вуснамі. Але ўжо з тае характарыстыкі настрояў Купалы, якую мы далі, відаць, што гэта тая бедната, якая, ня маючы непасрэднае сувязі з рабочай клясай буйных індустрыяльных цэнтраў, параўнальна *слаба* яшчэ падпала пад палітычны ўплыў пролетарыяту, якая ўсьвядоміла сваё становішча толькі часткова, якая



**Проф. Піотуховіч робіць даклад аб творчасьці Янкі Купалы на юбілейным сходзе ў доме Асьветы ў Менску 25 мая г/г.**

ўбачыла толькі бліжэйшыя прычыны свайго цяжкага становішча: эксплёатацыю фэўдалаў-абшарнікаў, уціск царызму з яго паліцэйшчынаю, сваю сярэднявяковую цемру, няпісьменнасьць, але якая яшчэ не ўзьнялася да ўразуменьня асноўнае, самае важнае прычыны свае нэндзы, не ўзьнялася на вышыню політычных патрабаваньняў свайго часу, не ўзьнялася да зразуменьня социялістычных ідэй і задач тае політычнае барацьбы, якую вяла рабочая кляса і найбольш перадавая частка сялянства.

Там, дзе Купала абмалёўваў жыцьцё селяніна, яго нядолю, няволю, у якой жыве гэты селянін, нэндзу, жабрацтва—там Купала ўздымаецца на недасяжную вышыню. Там, дзе ён шукае выхаду з гэткага становішча—там ён недалужны, як дзіця. Беспрасьветнасьць тае рачаіснасьці, у якіх жыла тая частка сялянства, псыхоідэолёгію якой адбіваў у сваёй творчасьці Янка Купала, пры адсутнасьці ўсьведамленьня сапраўдных шляхоў даператварэньня гэтае рачаіснасьці, абумовіла той пэсымізм, той сум, які часам так выразна адчуваецца ў шэрагу вершаў „Жалейкі", які перашкаджаў песьням Янкі Купалы зрабіцца актыўнымі, чыннымі, які туманам засьцілаў вочы поэту, прыдушаў яго, пазбаўляў яго волі, не даваў яму песьнямі сваімі заклікаць сялянства на рэволюцыйную барацьбу. Адгэтуль і пасыўная сузіральнасьць поэзіі Янкі Купалы. Тут слабое месца поэты.

Той факт, што Купала зьяўляўся выразьнікам псыхоідэолёгіі адсталае часткі сялянства і абумовіла тыя чужыя і нібы-та „выпадковыя" ўплывы, аб якіх мы ўжо гаварылі. I гэтым-жа абумоўлены і той моцны ўплыў з боку нашаніўскага асяродзьдзя, пад які поэта падпаў ужо ў тыя часы, калі ён складаў „Жалейку", і які асабліва выразна адчуваецца ў пазьнейшай яго творчасьці. Падпаўшы пад уплыў нашаніўства, Купала пачаў адрывацца ад сялянскіх мас, стаў у старане ад рэволюцыі і, ня бачачы „заўтра", зьвярнуўся да мінуўшчыны, у якой у поўнай адпаведнасьці з установкамі нашаніўцаў, пачаў шукаць нейкі „залаты век" Беларусі.

Ён пачынае шукаць у мінулым той час, калі „тут" (на Беларусі) „кіпела жыцьцё", калі „свой народ быў кругом, і любіў сваё ўсё", той час, калі гэты „свой народ" ня стыдаўся запяяць сваю песьню, ня стыдаўся надзець сівую сярмяжку, весяліўся так, што „аж грымела сяло", калі „ва ўсіх" быў сьветлы погляд, калі ва ўсіх „шчасьце цьвіло". (Т. 1, ст. 79).

# БУДУЕМ САВЕЦКУЮ ГАСПАДАРКУ



Уключаем ток для новага цэмэнтнага заводу ў Новарасійску, які дасьць штогод 43.000.000 інтэрлітаваных плітак для дахаў. Завод каштаваў 1 мільён рублёў. Ужо пушчаны ў ход і па сваім абсталяваньні лепшы ў СССР. На здымках: верхні—канатная чыгунка на заводзе для падачы каменю; ніжні—агульны выгляд заводу.



СССР вытрымаў экзамен на аўтомобільнае будаўніцтва. Першы аўтозборачны завод ў Ніжнім - Ноўгарадзе пушчаны ў ход. На нашых фабрыках і заводах ужо працуюць Савецкія Форды.



Новы кіно-тэатр у Тыфлісе.



Савецкая Грузія шпарка індустрыялізуецца. У Тыфлісе пабудавана новая суконная фабрыка, абсталяваная найноўшымі замежнымі машынамі. Да ф-кі праведзены трамвайныя і чыгуначныя каляіны.



Мозг Днепральстану—будынак кіраўніцтва галоўн. інжынэра



На Марыупольскіх заводах „імя Ільліча" пачалі выробляць магутныя трубы. На здымку: махавік к мотору варочае пільгерстаны, якія важаць 201 тону.



Зборачныя тытунёвых машын на заводзе імя Маркса Гэльца ў Ленінградзе працуе на экспорт.



Паруховы конвэер, які зьбірае панчошна - вязальныя машыны на заводзе імя Макса Гэльца.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Ня гледзячы на ўсе кулацкія перашкоды, сплаў лесу сёлета праходзіць пасьпяхова. На здымку: сплаў на Прыпяці супроць Мазыра.



Закінутая ў глушы Бабруйшчыны гута „Кастрычнік" была адарвана ад культурных цэнтраў. Зараз рабочыя гуты пабудавалі свой клюб.



Шаша Слуцак—Бабруйск. У маі 1930 г. распачаўся штодзённы рэгулярны аўтабусны рух паміж Слуцкам і Бабруйскам. Гэты новы рэйс значна спрые культурнаму росту гэтых раёнаў. На здымку зьверху: аўтабус у часе першага рэйсу. Зьнізу: у кабіны шофэра ў часе прыпынку



У Менску будуецца дом-комуна.



Заканчваецца пабудова новага дому для рабочых у Віцебску.



У Віцебску вядуцца работы па асфальтаваньні вуліц.



Зборка малатарняў на дасканала тэхнічна-абсталяваным заводзе с.-г. машынабудаўніцтва ў Віцебску.





Выставачны камітэт ухваліў абавязкова адчыніць Усебеларускую Выстаўку с.-г. і прамысловасьці ў вызначаны ўрадам тэрмін— 11 ліпеня 1930 г. Большасьць павільёнаў пабудаваны ўжо.

На здымку: Павільён машынабудаўніцтва.

# ЗА МЯЖОЙ





У піонэрскім лягеры імя Варашылава пад Бэрлінам Слухаюць „політгадзіну“.



Палкоўнік Эльстон робіць агляд кадэтаў лунстацскага корпусу ў Сатфордзе (Амэрыка).





Зьверху ўніз: 1) Піонэры ў лягеры імя Варашылава пад Бэрлінам. Лягер організаваны бэрлінскім комсамолам; 2) Вядуць кітайскіх рэволюцыянэраў на кару сьмерці; над іх галовамі паперы, на якіх напісана, за што яны пакараны; 3) У першамайскіх урачыстасьцях у Лёндоне ўдзельнічалі беспрацоўныя жанчыны, якія задоўга да сьвята выйшлі галодным паходам у Лёндан.



Памёр Фрыцїёр Нансэн, вядомы ўсім працоўным СССР, як прыяцель і сябра, які ў галодны 1921 год выратаваў сотні тысяч працоўных Павал жжа ад галоднай сьмерці. Маскоўскі пролетарыят абраў яго ганаровым членам Маскоўскага Савету. Нансэн вядомы ўсяму сьвету, як полярны дасьледчык і грамадзкі дзеяч.

# Кніжная вітрына

**Я. Чалядзінскі. Барацьба за колгасы** (нарысы аб колектывізацыі Клімаўшчыны) БДВ, Менск, 1930 г., 96 стар., цана 20 к.




Лік нарысаў аб нашым колгасным будаўніцтве папоўніўся кніжачкай Чалядзінскага. Аўтар, як корэспондэнт газэты „Зьвязда“, аб'ехаў увесь раён суцэльнае колектывізацыі—Клімаўшчыну. У шэрагу яскравых малюнкаў паказвае ён актыўную барацьбу за колгасы бядняцка-серадняцкай вёскі, першыя дні работы новаорганізаваных колгасаў, выступленьні „нехацімцаў“, супраціўленьне кулакоў.

У сваіх нарысах аўтар паказвае сапраўдны твар сучаснае вёскі, барацьбу паміж элемэнтамі капіталістычнага „учора“, соцыялістычнага „заўтра“.

Кніжка дапаможа чытачу ўявіць жыцьцё сучаснае вёскі.

---

**„Загулі трактары“.** Злажыў **Зьм. Малевіч.** БДВ. Менск. 1930 г. 52 стар. Цана 15 кап.




Гэта кніжачка зьяўляецца зборнікам нарысаў розных аўтараў (Я. Паўлоўскі, П. Трус, З. Бандарына, З. Малевіч і Г. Цімафееў) аб нашых комунах і колгасах. Мазыршчына, Магілеўшчына, Меншчына, Аршаншчына. Самыя розныя куткі Беларусі і Савецкага Саюзу, нават Уральская вобласьць.

Перад чытачом паўстаюць колектывы, паасобныя людзі, якія змагаюцца за новую соцыялістычную вёску.

„Сёньня“ вёскі Гарочыцы, сівенькая бабулька Зося Верамейчык з комуны „Чырвоны Сьцяг“, гаспадарка - колектыў імя „XII зьезду КП(б)Б“... Асобныя старонкі з кнігі нашых перамог на фронце барацьбы за колгасы.

Трэба раіць гэту кніжку і адначасна шкадаваць, што пакуль яшчэ нашы пісьменьнікі вельмі слаба раскачваюцца.

Мы па ранейшаму амаль ня маем на сёньня кніжак аб новай вёсцы, якія-б былі напісаны нашымі поэтамі і пісьменьнікамі. Час ужо гэта зрабіць.

---

**Ів. ПАПОЎ. За культурную рэволюцыю.** 38 стар. Цана 10 кап.




**С. СТРУМІЛІН. Соцыяльныя проблемы пяцігодкі.** 74 стар. Цана 20 кап. Сэрыя — „Праз пяць год“. БДВ, Менск, 1930 г.

Лік кніжок, якія выдае наша БДВ, павялічыўся новай сэрыяй „Праз пяць год“.

Гэтая сэрыя ставіць на мэце популярызацыю пяцігадовага пляну вялікіх работ.

Першая кніжачка Папова „За культурную рэволюцыю“ досыць популярна расказвае аб пытаньнях культуры ў пяцігодцы. Ліквідацыя няпісьменнасьці, усеагульнае навучаньне, падрыхтоўка новых кадраў, соцыялістычная культура працы, культура і быт—вось аб чым тут гаворыцца.

Другая кніжка Струміліна „Соцыяльныя проблемы пяцігодкі“ дае соцыяльны разрэз пяцігадовага народна - гаспадарчага пляну.

Аўтар вылучае тры асноўных проблемы: проблему працы, проблему накапленьня і проблему рынку. Навокал аналізу гэтых проблем аўтар групуе шэраг лічбаў і фактычнага матэрыялу. Напісаная вядомым экономістым—т. Струмілін, старшыня экономічнага сэктару Дзяржплану СССР—яна сьцісла закранае самыя важныя пытаньні.

Для слаба падрыхтаванага чытача кніжка цяжкаватая.

---

**Зьмітрок Бядуля—Салавей** (аповесьць з часоў паншчыны). „Мастацкае слова—масам“. БДВ. Менск, 1929 г., 126 стар. Цана 40 кап.




Аповесьць З. Бядулі „Салавей“ узята з часоў прыгоннага быту на Беларусі. Цераз усю аповесьць праходзяць мотывы соцыяльнай няроўнасьці. Паказваецца самадурнае панства з аднаго боку і зусім бяспраўнае сялянства—з другога.

Паказ узаемаадносін паміж панам і селянінам ідзе пераважна ў пляне псыхолёгічным.

Гэта аповесьць з часу свайго першага надрукаваньня 1927 г. карыстаецца вялікім посьпехам у чытачоў. Таму прыемна аднатаваць яе зьяўленьне ў сэрыі „Мастацкае слова—масам“.

---

**Ян Цанкар—Праўда батрака.** „Мастацкае слова—масам“. Менск, БДВ—1930 г. 50 стар. Цана 15 кап.

У кніжцы перадаецца гісторыя батрака Эрні. Малады гаспадар пасьля сьмерці бацькі праганяе батрака, які сорак год паліваў сваім потам чужую зямлю. З невялікім клункам сваіх рэчаў ідзе ён у сьвет шукаць праўды.




Бездапаможны, адзінокі, пакінуты ўсімі—у паліцыі, судзе і ў папа шукае ён абароны сваіх інтарэсаў.

Але ўвесь апарат капіталістычнае краіны, усе яго органы—і паліцыя, і суд, і рэлігія—знаходзяцца на службе ў буржуазіі. Нідзе ён не знаходзіць спачуваньня.

У роспачы ён помсьціць: паліць гаспадарку свайго былога гаспадара.

Гэта кніжка вельмі яскрава малюе прыгнечаньне сельскагаспадарчых рабочых у капіталістычных краінах. Але трэба памятаць, што шлях індывідуальнага змаганьня (падпал) Эрні ня ёсьць шлях рабочае клясы.

„Эрні шукаў праўду, але не знайшоў яе, бо шукаў ня там, дзе трэба“.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ГОД 1930 НА ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК—**

**Абагульвае** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Вывучае** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**Дае** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матэрыялы—факты, лічбы, па пытаньнях бягучай працы.

**Дапамагае** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, зьвяноргам і інш.

**Асьвятляе** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Ставіць** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

**Рэгулярна зьмяшчае** крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**Зьмяшчае** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях

**КОЖНАЯ** гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цахавы, групавы, зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты—павінен падпісацца на часопіс „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэдакц. часопісу „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

Орган ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы на м-ц

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 25 кап. |
| „ 3 месяцы | 75 кап. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 50 кап. |
| „ 1 год | 2 р. 75 кап. |

**Кошт асобнага нумару—15 кап.**

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—**Менск, Пляц Волі**, д. № 5. Аддзел падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР—**Менск, Савецкая, 54** і усе паштовыя, аддзяленьні і лістаносцы.

---

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 ГОД МАЛАДНЯК

НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмесьціць шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе даваццa багаты аддзел бібліографіі, хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ○ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІСЬ „МАЛАДНЯК“ ○ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | На 6 м-цаў | На 3 м-цы | На 1 м-ц |
|---|---|---|---|
| 3 — | 1 60 | — 90 | — 30 |

ЦАНА ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

**ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ** у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77

